



● «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка. Б. Платонаў (Лявон), А. Рынковіч (Клава).

● «Курыца» М. Каляды. Сцэна са спектакля.

# ПАКУЛЬ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ ТЭАТР,

● «З нагоды мокрага снегу» паводле Ф. Дастаеўскага. На сцэне — С. Краўчанка і І. Дзянісаў.

● І. Дзянісаў і А. Гарцуеў (фотажарт У. Шахлевіча).





ТЭАТРУ ЯНКІ КУПАЛЫ 75

# ЖЫВЕ НАЦЫЯ

Здымкі Уладзіміра КРУКА, Уладзіміра ПАНАДЫ, Уладзіміра ШАХЛЕВІЧА.



«З нагоды мокрага снегу». А. Іваннікава (Ліза).



«Тры сястры» А. Чэхава.



«Гульня ў джын» Д. Коуберна. В. Лебедзеў.



Сустрэча ў Парыжы. Франсуа Мітэран і Мечыслаў Грыб.

Фота Белінфарма.

# ІМКНЕННЕ БЕЛАРУСІ ДА МІРУ

## ЯНО ЗНАЙШЛО СВАЁ ЎВАСАБЛЕННЕ Ў ДЗЕСЯТКАХ МІРНЫХ ІНІЦЫЯТЫЎ І ПРАПАНОЎ НА БУЙНЫХ МІЖНАРОДНЫХ ФОРУМАХ

**Беларуская дзяржава** ў сваёй знешняй палітыцы прынцыпова і няўхільна прытрымлівалася і прытрымліваецца прынцыпаў суверэннай роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных нормаў міжнароднага права, якія замацаваны ў новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Імкненне Беларусі да міру знаходзіць сваё ўвасабленне ў тым ліку і ў мірных ініцыятывах і прапановах беларускіх дэлегацый на буйнейшых міжнародных форумах, перш за ўсё на сесіях Генеральнай Асамблеі ААН.

Традыцыйна на сесіях Генеральнай Асамблеі ААН Беларусь з'яўлялася каардынатарам распрацоўкі і прынятця рэзалюцыі аб забароне распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі.

У 1985 годзе на 40-й сесіі Генеральнай Асамблеі дэлегацыя БССР прымала актыўны ўдзел у прасоўванні ініцыятыўнай прапановы СССР «Аб міжнародным супрацоўніцтве ў мірным засваенні касмічнай прасторы ва ўмовах яе немілітарызацыі». Распрацаваны на аснове гэтай прапановы праект рэзалюцыі быў прыняты 151 галасам.

На 40-й сесіі, як і на папярэдніх сесіях, дэлегацыя Беларускай ССР вяла актыўную работу па пытаннях раззбраення. Яна стала сааўтарам наступных праектаў рэзалюцый:

— аб забароне распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі,

— аб ядзернай зброі ва ўсіх яе відах,

— аб замарожванні ядзерных узбраенняў усімі ядзернымі дзяржавамі,

— аб забароне выпрабаванняў ядзернай зброі,

— аб забароне ядзернай нейтроннай зброі,

— аб заключэнні міжнароднага пагаднення, якое дае гарантыі няядзерным краінам, што не маюць ядзернай зброі на сваёй тэрыторыі, што супраць іх не будзе прымяняцца ядзерная зброя,

— аб забароне хімічнай і бактэрыялагічнай зброі,

— аб Тыдні раззбраення,

— аб сусветнай кампаніі за раззбраенне,

— па дакладу Камісіі па раззбраенню.

На 41-й сесіі Генеральнай Асамблеі дэлегацыя БССР была ў ліку ініцыятараў сумеснай прапановы краін сацыялістычнай садружнасці «Аб стварэнні ўсеабдымнай сістэмы міжнароднай бяспекі». Пытанне аб усеабдымным падыходзе да міжнароднай бяспекі заставалася прыярытэтным для дэлегацый СССР, БССР, УССР і сацыялістычных краін на 42—44-й сесіях Генеральнай Асамблеі ААН.

Дэлегацыя БССР увайшла ў лік сааўтараў шэрагу рэзалюцый па праблемах раззбраення: аб забароне распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі, аб неадкладным спыненні і забароне выпрабаванняў ядзернай зброі, аб забароне хімічнай і бактэрыялагічнай зброі, аб праве народаў на мір, аб праве народаў на жыццё, аб распрацоўцы Дэкларацыі ААН аб умацаванні прынцыпу неўжывання сілы ў міжнародных адносінах і інш.

На 43-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН беларуская дэлегацыя з'яўлялася адным з ініцыятараў прынятай рэзалюцыі аб усеабдымным падыходзе да ўмацавання міжнароднага міру і бяспекі ў адпаведнасці са Статутам ААН, а таксама рэзалюцыі аб забароне распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі.

На 3-й спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН па раззбраенню, што адбылася ў 1988 годзе, дэлегацыя БССР, прымаючы ўдзел у распрацоўцы праекта адпаведнага дакумента, унесла блок прапаноў па пытаннях новых пакаленняў і відаў зброі, а таксама па праблемах раззбраення і бяспекі, бяз'ядзерных зонаў, прадухілення гонкі ўзбраенняў у космасе, ролі ААН у галіне праверкі, у справе надання структуры ўзброеных сіл абарончага характару.

На 44-й сесіі беларуская дэлегацыя стала сааўтарам праекта рэзалюцыі «Умацаванне міжнароднага міру, бяспекі і міжнароднага супрацоўніцтва ва ўсіх яго аспектах у адпаведнасці са Статутам ААН», а таксама сааўтарам 15 прынятых праектаў рэзалюцый па шырокаму колу пытанняў, што ахопліваюць усе асноўныя напрамкі раззбраення.

У 1990 годзе ў ходзе агульнай дыскусіі на 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН беларуская дэлегацыя выступіла з прапановай стварэння бяз'ядзернага пояса ад Балтыйскага да Чорнага мора. Дэлегацыя БССР стала сааўтарам 16 рэзалюцый па ўсіх асноўных напрамках раззбраення.

На 47-й сесіі Генеральнай Асамблеі дэлегацыя Беларусі стала сааўтарам 10 праектаў рэзалюцый па праблемах міжнароднай бяспекі і раззбраення, у тым ліку па такіх пытаннях, як Канвенцыя аб забароне хімічнай зброі, Дагавор аб усеабдымнай забароне ядзерных выпрабаванняў, двухбаковыя перагаворы па ядзернаму раззбраенню, меры даверу і рэгіянальнае раззбраенне, забарона вытворчасці матэрыя-

лаў, якія расшчапляюцца, для мэтаў зброі, і інш.

На 48-й сесіі на напрамку раззбраення беларуская дэлегацыя ад імя дзяржаў СНД вяла ўсю работу, звязаную з пытаннем аб нераспаўсюджанні зброі масавага знішчэння і сродкаў яе дастаўкі.

Беларусь стала сааўтарам 10 праектаў рэзалюцый, якія тычацца такіх важных пытанняў, як забарона распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі, Дагавор аб усеабдымнай забароне ядзерных выпрабаванняў, транспарэнтнасць ваенных расходаў, міжнародныя пастаўкі зброі, пашырэнне членскага складу Канферэнцыі па раззбраенню, выкананне пагадненняў у галіне раззбраення, забарона вытворчасці матэрыялаў, якія расшчапляюцца.

У выступленні прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь у агульнапалітычнай дыскусіі на 49-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у кастрычніку мінулага года было заяўлена, што Беларусь выступае за бестэрміновае і безумоўнае прадаўжэнне Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі, а таксама за хутчэйшае заключэнне Дагавора аб усеабдымнай забароне ядзерных выпрабаванняў. Прэм'ер-міністр таксама пацвердзіў высунутую ў 1990 годзе дэлегацыяй Беларусі на 45-й сесіі ААН ідэю стварэння без'ядзернага пояса ад Балтыйскага да Чорнага мора. Было падкрэслена, што «нядаўнія крокі Беларусі ў гэтым напрамку, звязаныя з датэрміновым вывадам ядзернай зброі з яе тэрыторыі, дазволяць разглядаць істотную частку гэтага рэгіёна як без'ядзерную прастору».

На мінулай сесіі Генеральнай Асамблеі Беларусь стала сааўтарам прынятага кансэнсусам праекта рэзалюцыі «Святкаванне пяцідзесяцігоддзя заканчэння другой сусветнай вайны», у якой 1995 год абвяшчаецца Сусветным годам памяці народаў аб ахвярах другой сусветнай вайны і пастанаўляецца правесці спецыяльнае ўрачыстае пасяджэнне Генеральнай Асамблеі 18 кастрычніка 1995 года ў памяць аб ахвярах вайны.

Беларусь была таксама ў ліку сааўтараў 6 праектаў рэзалюцый па пытаннях бяспекі і раззбраення, большасць з якіх былі прыняты без галасавання:

— «Аб'ектыўная інфармацыя па ваенных пытаннях, уключаючы транспарэнтнасць ваенных выдаткаў»,

— «Даклад Канферэнцыі па раззбраенню»,

— «Канвенцыя аб забароне распрацоўкі, вытворчасці і накаплення запасаў бактэрыялагічнай (біялагічнай) і таксіннай зброі і аб іх знішчэнні»,

— «Дагавор аб усеабдымнай забароне ядзерных выпрабаванняў»,

— «Транспарэнтнасць ва ўзбраеннях»,

— «Ажыццяўленне кіруючых прынцыпаў для адпаведных тыпаў мер умацавання даверу».

* * *

У красавіку 1992 года быў датэрмінова завершаны вывад усёй тактычнай ядзернай зброі з тэрыторыі Беларусі, прычым гэты крок наша краіна зрабіла першай з былых рэспублік Савецкага Саюза, што маюць на сваёй тэрыторыі ядзерную зброю.

4 лютага 1993 года Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікаваў Дагавор аб стратэгічных наступальных узбраеннях і Лісабонскі пратакол да гэтага дагавора. Беларусь далучылася да Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі ў якасці няядзернай дзяржавы. Упершыню ў гісторыі міжнароднага супольніцтва адбылося добраахвотнае адмаўленне суверэннай дзяржавы ад магчымасці рэальнага валодання ядзернай зброяй.

Надаючы вялікае значэнне неабходнасці змяншэння колькасці звычайных узбраенняў на еўрапейскім кантыненце, Беларусь ратыфікавала Дагавор аб звычайных узброеных сілах у Еўропе і скрупулёзна выконвае ўсе яго палажэнні.

У 1992 годзе Беларусь стала паўнапраўным членам Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Сталіца Беларусі горад Мінск быў абраны месцам правядзення міжнароднай канферэнцыі НБСЕ па Нагорным Карабаху. Для пошуку ўзаемапрымальнага мірнага рашэння канфлікту і падрыхтоўкі канферэнцыі створана Мінская група НБСЕ (зараз АБСЕ) па Нагорнаму Карабаху, у дзейнасці якой, разам з 8 іншымі дзяржавамі, актыўна ўдзельнічае і Беларусь.

# МЕМАРАНДУМ АБ ГАРАНТЫЯХ БЯСПЕКІ БЕЛАРУСІ



● Міністр замежных спраў Каралеўства Данія Н. Х. Петэрсен і ягоны беларускі калега — міністр замежных спраў У. Ф. Сянько.

**Уладзімір СЯНЬКО,**
**міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь**

*«Зыходзячы з той расстаноўкі сіл, што складваецца сёння далучэннем да Мемарандума, мы атрымліваем істотныя гарантыі, якія будуць мець краіны, што вызваляюцца ад ядзернай зброі. Гэтыя гарантыі з'яўляюцца вельмі важным, істотным элементам нашай нацыянальнай бяспекі. Мы выводзім са сваёй тэрыторыі ядзерную зброю, атрымліваючы ўзамен гарантыі ядзерных дзяржаў».*

Рэспубліка Беларусь, Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя,

вітаючы далучэнне Рэспублікі Беларусь да Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі ў якасці дзяржавы, якая не валодае ядзернай зброяй,

улічваючы абавязацельствы Рэспублікі Беларусь аб выдаленні ўсіх ядзерных узбраенняў з яе тэрыторыі ва ўстаноўлены тэрмін,

адзначаючы перамены ў свеце ў галіне бяспекі, у тым ліку сканчэнне «халоднай вайны», якія стварылі ўмовы для глыбокіх скарачэнняў ядзерных сіл,

пацвярджаюць наступнае:

1. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць Рэспубліцы Беларусь свае абавязацельствы ў адпаведнасці з прынцыпамі Заключнага акта НБСЕ паважаць незалежнасць, суверэнітэт і іс-

нуючыя граніцы Рэспублікі Беларусь.

2. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць сваё абавязацельства ўстрымлівацца ад пагрозы сілай або яе прымянення супраць тэрытарыяльнай цэласнасці або палітычнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь і што ніякія іх узбраенні ніколі не будуць выкарыстаны супраць Рэспублікі Беларусь, акрамя як у мэтах самаабароны або якім-небудзь іншым чынам у адпаведнасці са Статутам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

3. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць Рэспубліцы Беларусь сваё абавязацельства ў адпаведнасці з прынцыпамі Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе ўстрымлівацца ад эканамічнага прымушэння, накіраванага на тое, каб падпарадкаваць сваім уласным інтарэсам ажыццяўленне Рэспублікай Беларусь правоў, уласцівых яе суверэнітэту, і такім чынам забяспечыць сабе перавагі любога роду.

4. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць сваё абавязацельства дабівацца неадкладных дзеянняў Савета Бяспекі ААН па аказанню дапамогі Рэспубліцы Беларусь як дзяржаве — удзельніцы Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі, якая не валодае ядзернай зброяй, у выпадку, калі Рэспубліка Беларусь стане ахвярай акта агрэсіі або аб'ектам пагрозы агрэсіі з прымяненнем ядзернай зброі.

5. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць у адносінах да Рэспублікі Беларусь сваё абавязацельства не прымяняць ядзерную зброю супраць любой дзяржавы — удзельніцы Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі, якая не валодае ядзернай зброяй, акрамя як у выпадку нападзення на іх, іх тэрыторыі або залежныя тэрыторыі, на іх узброеныя сілы або іх саюзнікаў такой дзяржавай, што дзейнічае разам з дзяржавай, якая валодае ядзернай зброяй або звязана з ёй саюзным пагадненнем.

6. Рэспубліка Беларусь, Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя будуць кансультавацца ў выпадку ўзнікнення сітуацыі, якая закранае пытанне адносна гэтых абавязацельстваў.

Гэты Мемарандум будзе ўжывацца з моманту яго падпісання.

Падпісана ў чатырох экземплярах, аднолькава сапраўдных на беларускай, англійскай і рускай мовах.

Будапешт, 5 снежня 1994 г.



# НЕЗАПАТРАБАВАНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА БЕЛАРУСКАГА МІНІСТРА

## ЧАМУ БЕЛАРУСЬ НЕ СТАЛА ЧЛЕНАМ ЮНЕСКА Ў 1947 ГОДЗЕ

Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА) быў распрацаваны на Лонданскай канферэнцыі ў лістападзе 1946 года. Праз год ён уступіў у сілу, і з гэтага часу ЮНЕСКА пачала дзейнічаць як адна з спецыялізаваных устаноў ААН. Савецкі Саюз, нягледзячы на запрашэнне, адмовіўся ад удзелу ў канферэнцыі, бо яе арганізатар — урад Вялікабрытаніі — не накіраваў запросіны Беларусі і Украіне. Савецкі ўрад быў таксама незадаволены адхіленнем ад удзелу ў падрыхтоўцы і скліканні канферэнцыі Эканамічнага і Сацыяльнага Савета (ЭКАСАС) — аднаго з галоўных органаў ААН, які займаўся пытаннямі каардынацыі дзейнасці спецыялізаваных устаноў.

Але самае галоўнае, што перашкаджала Савецкаму Саюзу ўвайсці ў склад заснавальнікаў ЮНЕСКА, было тое, што кіруючыя пазіцыі ў ёй занялі прадстаўнікі ЗША, Вялікабрытаніі і іншых заходніх краін. Тагачасная савецкая ідэалогія разглядала гэтую арганізацыю як сродак, як інструмент ідэалагічнага ўплыву амерыканскага і англійскага імперыялізму.

Змены ў адносінах савецкай дыпламатыі да ЮНЕСКА, як і да іншых спецыялізаваных устаноў ААН і ўвогуле да ААН, адбыліся толькі пасля смерці «бацькі народаў», калі савецкая знешняя палітыка зрабілася больш канструктыўнай і рэалістычнай. У 1954 годзе СССР, УССР і БССР увайшлі ў склад ЮНЕСКА і Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) і пачалі браць актыўны ўдзел у іх дзейнасці.

### «НАШЫ АДНОСІНЫ АДМОЎНЫЯ...»

Рассакрэчаныя ў пачатку 1991 года Архівам знешняй палітыкі СССР (зараз гэта Архіў знешняй палітыкі Расійскай Федэрацыі) дакументы аб адносінах савецкага дыпламатычнага кіраўніцтва да ЮНЕСКА дазваляюць высвятліць пытанне аб тым, чаму Савецкі Саюз адмоўна ставіўся ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў да магчымасці ўдзелу ў дзейнасці гэтай арганізацыі.

Як адзначалася ў службовай даведцы адносна заснавання і дачыненняў СССР да ЮНЕСКА, падрыхтаванай для савецкага кіраўніцтва аддзелам ААН Міністэрства замежных спраў СССР у студзені 1947 года, няўдзел СССР у ЮНЕСКА тлумачыцца тым, што ў перыяд яе стварэння была «не заўважа-






Міжнародная выстава ў Бабруйску, арганізаваная мясцовым клубам ЮНЕСКА, сабрала не толькі прыхільнікаў дзіцячай мастацкай творчасці, але і дыпламатаў.

Фота Ігара ВОЛКАВА.

на» прапанова СССР аб заснаванні гэтай арганізацыі **толькі пасля стварэння ЭКАСАС.** Менавіта ЭКАСАС, на думку СССР, павінен быў папярэдне разгледзець пытанне і ўзяць на сябе арганізацыю склікання міжнароднай канферэнцыі па пытаннях асветы, навукі і культуры з мэтай заснавання ЮНЕСКА. Аднак урад Вялікабрытаніі ігнараваў прапанову СССР і, «маючы на мэце задачу распаўсюджання свайго ўплыву на створаную ЮНЕСКА», настаяў на неадкладным скліканні міжнароднай канферэнцыі. У даведцы зазначалася, што калі б прапанаваная СССР працэдура склікання, якая адпавядала Статуту ААН (артыкул 59), была прынята, дык Савецкі Саюз згадзіўся б як на ўдзел у канферэнцыі, так і ў ЮНЕСКА. Звяртае на сябе ўвагу наступнае палажэнне дакумента: «Прынцыповы бок нашай адмовы ад удзелу ў канферэнцыі намі не абмяркоўваўся».

Аўтары даведкі прыйшлі да высновы: у цяперашні час, паколькі заснаванне ЮНЕСКА адбылося пры ігнараванні законных патрабаванняў СССР, паколькі СССР не прыняў удзелу ва ўстаноўчай канферэнцыі ЮНЕСКА, выпрацоўцы яе Статута, стварэнні кіруючых і іншых органаў, нарэшце, паколькі ўвесь характар гэтай арганізацыі насіў адбітак не міжнароднага, а хутчэй брытанскага пачынання, «нашы адносіны да гэтай арганізацыі адмоўныя».

## ІНІЦЫЯТЫВА БЕЛАРУСКАГА МІНІСТРА

Што ж да самой даведкі, дык яна з'явілася зусім не выпадкова. Гэта быў адказ на прадстаўленыя ў МЗС СССР Міністрам замежных спраў Беларусі К. В. Кісялёвым матэрыялы аб ЮНЕСКА і яго прапановы аб уваходжанні ў гэтую арганізацыю трох рэспублік. Мэтазгоднасць Кузьма Венядзіктавіч аргументаваў тым, што гэта дасць Савецкаму Саюзу магчымасць: 1) выкарыстоўваць ЮНЕСКА ў барацьбе супраць пагрозы новай вайны; 2) супрацьдзейнічаць яе выкарыстанню ў якасці сродку ідэалагічнага ўплыву іншых урадаў, перш-наперш ЗША і Англіі; 3) выкарыстаць яе ў якасці сродку савецкага ўплыву. Прыведзеныя аргументы дакументальна пацвярджаюць, што савецкая дыпламатыя ў сваім падыходзе да спецыялізаваных устаноў ААН кіравалася найперш палітыка-ідэалагічнымі меркаваннямі.

Аднак Цэнтр не падтрымаў прапаноў беларускага міністра. У запісцы кіраўніка аддзела друку МЗС СССР К. Зінчанкі намесніку міністра замежных спраў А. Вышынскаму ад 29 студзеня 1947 года адзначалася, што ўдзел Савецкага Саюза ў ЮНЕСКА ў цяперашні час немэтазгодны, паколькі арганізацыя з'яўляецца «адным з каналаў англа-амерыканскага ўплыву».

## АРГУМЕНТЫ КІСЯЛЁВА ЯК СПАЖЫВА ДЛЯ КРАМЛЁЎСКАЙ БЮРАКРАТЫЧНАЙ МАШЫНЫ

23 сакавіка 1947 года Вышынскі накіраваў запіску міністру замежных спраў СССР В. Молатаву, у якой пасля выкладу аргументаў Кісялёва адзначаў: «Лічу, што меркаванні Кісялёва непераканаўчыя. Наш удзел у ЮНЕСКА не можа адыграць той ролі, на якую разлічвае Кісялёў. Наадварот, ён можа адыграць адмоўную ролю, паколькі мы павінны будзем несці долю адказнасці за дзейнасць ЮНЕСКА. Мяркую, што ўваходзіць у ЮНЕСКА, прынамсі ў гэты час, нам не трэба. Прашу вашых указанняў». Молатаў 15 красавіка зрабіў рэзалюцыю: «Тав. Вышынскаму. Трэба абмяняцца меркаваннямі на замах».

У пашыраным варыянце неадпраўленага пісьма Вышынскага Молатаву (сакавік, 1947 г.) утрымлівалася больш падрабязная аргументацыя пазіцыі Вышынскага, які, не згаджаючыся з вывадамі і прапановамі Кісялёва, выстаўляў наступныя контраргументы супраць уваходжання Савецкага Саюза ў ЮНЕСКА: 1) Уступленне СССР у ЮНЕСКА будзе выкарыстана англа-амерыканцамі, якія маюць у гэтай арганізацыі пануючае становішча, не толькі для актывізацыі пранікнення ў СССР... буржуазнай ідэалогіі, але і з разведвальнымі мэтамі, у першую чаргу аб становішчы ў СССР навукі, культуры і асветы; 2) Выкарыстанне ЮНЕСКА ў якасці сродку нашага ўплыву на сусветную грамадскую думку наўрад ці дало б істотныя вынікі. Займаючы пануючае становішча ў ЮНЕСКА, маючы апарат і большасць галасоў членаў арганізацыі, англа-амерыканцы зрабілі б усё магчымае, каб перашкодзіць нам выкарыстаць ЮНЕСКА ў патрэбным для нас напрамку; 3) Уступленне СССР у ЮНЕСКА значна падняло б яе міжнародны аўтарытэт. Гэта было б скарыстана для больш інтэнсіўнага пранікнення Англіі і ЗША пад шыльдай ЮНЕСКА ў краіны Паўднёва-Усходняй Еўропы з мэтай паслаблення пазіцый, займаных там Савецкім Саюзам. У гэтым выпадку варожыя нам элементы ў краінах Паўднёва-Усходняй Еўропы ў яшчэ большай ступені выкарыстоўвалі б ЮНЕСКА ў якасці канала для супрацоўніцтва з англа-амерыканцамі і французамі; 4) Уступіўшы ў ЮНЕСКА, СССР адступіў бы ад занятай ім пазіцыі адмаўлення ад супрацоўніцтва з арганізацыяй, створанай англічанамі.

## ЯШЧЭ АДЗІН КРОК...

Беларускі міністр не паспяшаўся «браць пад казырок». Магчыма, пасля праведзеных з ім у ходзе 2-й часткі 1-й сесіі Генеральнай Асамблеі гутарак з боку амерыканскіх і англійскіх прадстаўнікоў ён праяўляе палітычную смеласць і ў парадку асабістай ініцыятывы ставіць перад кіраўніцтвам МЗС СССР пытанне аб магчымасці ўваходжання СССР, УССР і БССР у ЮНЕСКА. Гэты крок па-новаму паказвае нам фігуру кіраўніка беларускай дыпламатыі, яго рэалістычны, прагматычны падыход да выкарыстання магчымасцей ЮНЕСКА ў інтарэсах савецкай знешняй палітыкі.

Зусім іншых, процілеглых высноў заслугоўвае аргументацыя Вышынскага. Пабудаваная на вузкіх палітыка-ідэалагічных меркаваннях, якія падаваліся ім «пад сцягам» абароны дзяржаўных інтарэсаў СССР, на канфрантацыйных падыходах да англа-амерыканскай дыпламатыі, яна выдае яго як блізарукага і кан'юнктурнага палітыка і дыпламата. Ягонае адмоўнае стаўленне да ўступлення Савецкага Саюза ў ЮНЕСКА было палітычнай памылкай, шкоднай для інтарэсаў краіны, і ў той жа час заканамернай праявай дагматычнага, канфрантацыйнага мыслення.

Даволі асцярожнай уяўляецца пазіцыя міністра замежных спраў СССР Молатава, які палічыў за неабходнае яшчэ раз абмеркаваць пытанне са сваімі намеснікамі. Аднак пра яго своеасаблівыя адносіны да ўваходжання ў ЮНЕСКА сведчыць і такі факт. На запісцы намесніка загадчыка аддзела ААН МЗС СССР А. Рошчына ад 28 мая 1947 года, у якой паведамлялася аб запрашэнні СССР удзельнічаць у 10-й жэнеўскай міжнароднай канферэнцыі па адукацыі (Рошчын рэкамендаваў устрымацца ад удзелу, паколькі СССР не ўваходзіць у ЮНЕСКА), Молатаў падкрэсліў словы «СССР не ўваходзіць у ЮНЕСКА» і паставіў пытанне: «Чаму? В. М.».

І ўсё ж нават асцярожная пазіцыя Молатава не магла быць рашаючай пры вызначэнні палітыкі СССР у адносінах да ЮНЕСКА. Уваходжанне ў гэтую арганізацыю не патрапляла ў планы Сталіна і яго найбліжэйшага асяроддзя. Ініцыятыва Кісялёва, такім чынам, засталася незапатрабаванай да 1954 года, калі СССР, УССР і БССР увайшлі ў ЮНЕСКА і МАП.

Уладзімір СНАПКОЎСКІ,
доктар гістарычных навук.

# Васіль Зуёнак

## ЎСЕ

*Хоць турбуюцца самазванцы:*
*Кнот за кнотам — дымяць,*
*фасонячы,—*
*Патрабуюцца пратуберанцы,*
*Што з грудзей выбухаюць сонечных.*

*Толькі той, хто згарае светачам,*
*Сам сабою — без партуліку,*
*Адгукнецца на сцежках вечнасці*
*Беларусі, святой і вялікай.*

## «Ё»-МАЁ

*Анатолю Кудраўцу,*
*галоўнаму рэдактару «Нёмана»,—*
*з нагоды 50-годдзя часопіса*

*Гаварылі так, як пісалі,*
*Прамаўлялі прыціснута: «Неман»,—*
*І глыбінна-пляскотныя хвалі*
*Разбіваліся плоска і нема.*

*У штабах ахоўна-галоўных*
*Так на картах «отобразили»...*

*Ой ты, Нёман, чаму ж ты не поўны*
*Без тых кропелек дзвюх — слязінак?..*

*«Е» ці «ё»?.. Беларускі характар...*
*Пахадзіў па замежжы ў заробкі...*
*«Ё-маё!» — прамовіў рэдактар,—*
*і над «е» паставілі кропкі.*

*І ўздыхнуў на ўсе грудзі «Нёман»,*
*Пакруглеў басавіта ў гучанні...*
*Ну а мы — маўчым пакрыёма:*
*«Ё» — не гэткі ўжо крок адчайны.*

*Бо ўжо «Нёман» цячэ ля дому*
*І каму ён «рече» — невядома:*
*Хто жыве ў нас, а мовы не знае,*
*Ці хто роднай сваёй пагарджае?..*

*І калі ўжо здамашніўся «Нёман»,*
*Не бяжыць за мяжу ўпрытруску —*
*Ё-маё!..— дык а раптам ён дома*
*Загаворыць па-беларуску?!.*

✦

*Жывём ды «ўсё наадварот»,*
*Мяняем карту генную,*
*І хутка круглы ідыёт*
*Пачне лічыцца геніем...*

Фота
Віктара ЖЫЛІНА.

## БЮРО

*Старэюць словы — і «бюро»,*
*Знаёмае нам змалку*
*(Такое, браце мой, дабро!),*
*Ужо нясуць на звалку...*

*А што «бюро»? — А значыць:*
*«стол» —*
*Адно што па-французску,*
*Але было: бы кол у дол,—*
*З партыйнаю нагрузкай.*

*Нібы нячысцікам дзяцей,*
*Палохалі зазвычай:*
*«Паскачаш і на жываце,*
*Як на бюро паклічуць»...*

*Паклічуць — нібыта за стол*
*На шумную бяседу,*
*I для разгону грамаў сто*
*Дадуць перад абедам...*

*О-о, гэта знатны быў абед:*
*Такі разгон давалі,*
*Што іншы раз і на той свет*
*Адразу адпраўлялі.*

*Было бюро — звычайны стол —*
*З уладай неаспрэчнай:*
*Кагосьці пляскала на дол,*
*Кагосьці несла ў вечнасць...*

*Звычайны стол — на ўвесь раён,*
*А то на ўсю краіну.*
*Стол, як прастол,— ды толькі ён*
*Нібыта шост курыны.*

*Даўжэзны стол, а ўсцяж яго*
*Правадыры сядзелі*
*I на галоўнага свайго,*
*Як пеўнікі, глядзелі.*

*Было з'яднанае бюро*
*Рэжымам пралетарскім:*
*Хто на тарцы тырчэў царом,*
*Той і рашаў па-царску.*

*Палітбюро і партбюро —*
*Пласталіся ў рабоце:*
*Галасавалі толькі «pro»,*
*Што значыць «за» — не проці.*

*А проці — «contra» — тут ужо*
*Ты непартыйна дышаш,*
*Ты без вуздэчкі і гужоў,—*
*I ў контрыкі запішуць...*

*Было бюро, бюро гуло*
*I лёсы вырашала...*
*Жыло застольнае кубло:*
*Піло і жыравала.*

*I я там быў —*
*Не еў, не піў,*
*А толькі слухаў словы*
*I тых надвозіркам хрысціў,*
*Каму «пяклі» вымовы...*

*Як цяжкі крыж, нясу таўро:*
*Прабачце, людзі, за бюро...*



*Волі няма нідзе.*
*Воля — фантом. Нічога.*
*Волі няма ў людзей,*
*Волі няма і ў Бога.*

*Самы нявольнік ён —*
*Вечнасць і Дух Прыроды:*
*Самы пакутны палон —*
*Рабства свабоды.*

## У ХАТЫНІ

*Ул. Левіну — аднаму з аўтараў Хатынскага мемарыяла*

*Якія б эпохі тут ні гулі,*
*Якія б вятры ні шасталі,—*
*Стаяць каміны на гэтай зямлі —*
*Без хат, як здані спічастыя...*

*Вораг спаліў, а мастак узнавіў,—*
*I вобраз — як выбіты з крэменю —*
*Дастойна застойны час ацаніў:*
*Ленінскай — Левінскай — прэміяй.*

## ПРЫЗНАННЕ ВЯСКОВАГА МУДРАЦА

*Есць мудрацоў кітайскіх абет:*
*Каб жыцця не зазнаць хворага,*
*Добра паснедай, выкінь абед,*
*Вячэру аддай ворагу.*

*Я гэта ўсё зведаў —*
*Ды ў іншай манеры:*
*Снедаў, абедаў*
*I добра вячэраў.*

*I злёг ад хваробы?*
*Наадварот —*
*Горш не магло быць:*
*Жыву! Соты год.*

## МАЛАДЗІЦА-НЕ-ЎДАВІЦА

*Маладзіца-не-ўдавіца,—*
*Сонца ў позірку ірдзіцца,*
*Весела дурэе,*
*Свеціць, ды не грэе.*

*Маладзіца-не-ўдавіца,—*
*Смех крыніцаю бруіцца,*
*Толькі з той усмешкі*
*Плачуць мае сцежкі.*

*Маладзіца-не-ўдавіца,—*
*Ці ўваччу вясна дваіцца,*
*А ці ты ўсё тая,*
*Што вясну вяртае?..*

*Маладзіца-не-ўдавіца,—*
*Я ўжо сам не сам як быццам*
*Ад тваёй няўвагі,*
*Ад людское звягі.*

*Маладзіца-не-ўдавіца,—*
*З-за цябе ні ажаніцца,*
*Ні знайсці кабету*
*Мне да скону свету.*

*Маладзіца-не-ўдавіца,—*
*Ні ўтапіцца, ні ўдавіцца:*
*Як цябе пабачыш —*
*I ў пятлі заскачаш.*

## КАМУ ПАКЛАНІЦЦА?

*Хто ў віне, а хто ў «Маскоўскай»*
*Душы мылі-чысцілі,*
*На дарозе тлумнай, коўзкай*
*Адкрывалі ісціну.*

*I былі заўсёды з намі*
*Верныя ахоўнікі,*
*Каб і п'янымі нагамі*
*Мы хадзілі роўненька.*

*Вып'еш гляк сабе ці шкалік*
*Каўтанеш гарэзнікам,—*
*I віталі, і чакалі*
*Ўсіх у выцвярэзніку.*

*Не з патрэбаю фіскальнай*
*Нас тут апрацоўвалі*
*I назаўтра выпускалі*
*З галавой свінцовою.*

*Знал: з гэткаю «страхою»*
*Ды над гэткай «хатаю»*
*Не замысліш сам ліхое*
*I закажаш пятаму...*

*Хоць шумелі часам бурна*
*I былі мы бітыя,*
*Ды з раённаю трыбунай*
*Алтары не блыталі.*

*Толькі ісціну шукалі —*
*Анічым не грэбвалі,*
*Бо калі мы ў «вертыкалі»,*
*То каму патрэбныя?..—*

*Ні сабе і ні дзяржаве*
*(Як пітва знішчальнікі)...*
*А ў мазгах — бы цвік іржавы,*
*Як сядзіш пры чайніку...*

*Завялі такія кошты*
*На шляху да ісціны,*
*Што — і ісціна навошта*
*I якое выйсце ў ёй?*

*Дзень за днём марнуюць людцы,*
*Потныя і млосныя,—*
*Так, глядзіш, і ўшчэнт звядуцца*
*На зямлі філосафы...*

*Бо калі табе на свята*
*Кроплю зрэдку выставяць,—*
*Хоць і розуму палата —*
*Хіба знойдзеш ісціну?!*

*Толькі дух залямантуе*
*Са звярыным выпасам...*
*I каму, скажыце, тую*
*Ўсю гаркоту выплеснуць?*

*I каму за рабскі шкалік*
*Нізка пакланіцца нам:*
*Прэзідэнцкай «вертыкалі»,*
*Жонкам ці міліцыі?..*

# Сяргей Давідовіч



Вершы і карціны аўтара.

*Ці не губляеш ты, мой народзе, Радзімы-маці?*
*Ці будзе месца пад родным дахам, у роднай хаце?*
*Ці будуць бачыць блакіт і сонца твае абшары?*
*Ці назаўсёды світанак-ранак закрыюць хмары?*
*Народ мой хворы, ты ж адцураўся ад роднай мовы!*
*Народ глухі мой, чаму ж ты чуеш чужыя словы?*
*А тая песня, што над калыскай спявала маці,*
*Амаль у кожным памерла сэрцы, у кожнай хаце.*
*Чаму ж дало нам сысці з дарогі, з дарогі збіцца,*
*Ад праху продкаў і адвярнуцца, і адступіцца?*
*І ўсё ж узыдзе, запальмнее зара над гаем —*
*І загаворым на роднай мове, і заспяваем.*

### РАЗВАЖАННЕ

*Калі не баліць тваё сэрца ад болю чужога —*
*Зрабілася сэрца тваё халадней нежывога.*
*Калі ты пад сонцам не бачыш чарнобыльскай ночы,*
*Не сонца, а чэрствасць закрыла сабой твае вочы.*
*Ці чуеш ты продкаў сваіх з таго свету, іх душы?*
*Не чуеш? Не хочаш? Зноў чэрствасць запоўніла вушы?*
*Калі ты не сніш той куток, дзе маленства крыніца,*
*Лічы, што не жыў ты. Не мог у жыццё ўкараніцца.*

# У САМЫЯ ЦЯЖКІЯ ГАДЗІНЫ ЧАЛАВЕК ЗВЯРТАЕЦЦА ДА

Звяртаюся да цябе, Беларусь,— мая крыніца, мая маці! Твая святая зямліца, якая ўзгадавала мяне, якая дала, наперакор усяму, мне крылы, прыняла на вечны спакой маю маму, таму ты — двойчы мая маці і з кім жа мне сёння раіцца, да каго мне звярнуцца і прытуліцца, як не да цябе?!

ЗВЯРТАЮСЯ ДА ЦЯБЕ, МАЯ БЕЛАРУСЬ!

Тое, што ты перажыла — усім вядома. Тое, што ты перажываеш — усведамляецца нямногімі. У гэтым — наша трагедыя. Сёння ты перажываеш самы крытычны момант сваёй гісторыі, сёння вырашаецца найгалоўнейшае пытанне: — Быць ці не быць!? Быць табе, а значыцца, і нам, беларусам, незалежнымі, вольнымі ці зноў паслухмяна падставіць свае спіны пад цяжар чужых інтарэсаў? З гонарам несці сваю нацыянальную годнасць і свядомасць ці страціць дзяржаўнасць, самабытнасць, беларускасць? Дык быць ці не быць? На жаль, заўсёды ёсць сілы, якія знаходзяцца на баку «не быць». Гэтыя сілы выкарыстоўваюць і сваё службовае становішча, і несвядомасць значнай часткі беларусаў.

Той, хто быў за мяжой і бачыў розныя «швецкія» сталы, павінен быў бачыць і другое — гаспадары тых сталоў не ўзялі б і кавалачка ў рот без адчування сваёй нацыянальнай годнасці. Скажу шчыра — дзе б я ні быў, мне заўсёды востра не хапала аднаго — Беларусі.

Кажуць, што чалавека трэба пазбавіць свабоды, каб ён ацаніў увесь цяжар страты. Вельмі жорсткае пакаранне! Чаму ж мы добраахвотна яго жадаем?

ЗВЯРТАЮСЯ ДА ЦЯБЕ, УСЕМАГУТНЫ БОЖА!

Дай паразуменне тым, хто не ўсведамляе, што без сваёй нацыянальнай культуры, без сваёй роднай мовы не можа быць той еднасці людзей, якая складае нацыю, дзяржаву, а, значыцца, не можа быць і СВАЕЙ моцнай эканомікі, не можа быць дабрабыту. Усё ўзаемазвязана!

ЗВЯРТАЮСЯ ДА ЦЯБЕ, МОЙ СУЧАСНІК,
МОЙ БРАТ-БЕЛАРУС!

Не дай загінуць той зямлі, у якой — твае карані і якая завецца Беларуссю!

НЕ БУДЗЕ ЯЕ — НЕ БУДЗЕ І НАС!

### Я ВАЎКУ СПАЧУВАЮ

*Туляецца воўк і зімой, і ў спякоту,*
*Заўсёды галодны, заўжды асцярожны.*
*Нялёгка пазбегчы смяротнага шроту,*
*Воўк — кожнаму вораг. Яму — вораг кожны.*

*Нясе воўчы лёс ён, як боскую кару,*
*Яго перадасць маладому нашчадку.*
*Бязлітасна валіць і душыць ахвяру,*
*У горла клыкі... Заўтра — гэта ж спачатку.*

*А кажуць, што воўк — адзічэлы сабака,*
*Благім чалавекам прагнаны ад хаты.*
*І мусіць драпежнічаць ён, небарака,*
*Быў сябрам надзейным, стаў ворагам клятым.*

*І горка, што лёс мой на воўчы падобны:*
*— Як выжыць? — зняволіла думка-патрэба.*
*Жыццёвы жабрацкі мой шлях валачобны*
*З дзяцінства туляецца ў пошуках хлеба.*

*А нас жа вучылі: — Не хлебам адзіным!*
*А нам абяцалі: — Наперадзе святы!*
*Я стаў... я і быў непатрэбны Радзіме,*
*Як гэны сабака, прагнаны ад хаты.*

*Жыццё, як ні дбай, не бывае паўторным,*
*Ці ў шчасці жывеш, ці бадзяешся ў горы.*
*Я стаў маляваць яго колерам чорным,*
*Я знік — не напішуцца лепшыя творы.*

*Жыццё — павуцінка павісла на бэльцы,*
*Імгненне — і дзьмухнуць сляпыя падзеі.*
*Нябёсныя мары, як тонкія шкельцы,*
*Раструшчылі, сцерлі гады-ліхадзеі.*

*Адкуль гэта гора? За што пакаранне?*
*Каб мне аднаму, яшчэ й роднаму краю...*
*Я выкінуў стрэльбу — прабач, паляванне,*
*Я — жорсткасць сама. Я — ваўку спачуваю.*



● Чарнобыльскі Гулівер.

# СВАЙГО ЖЫЦЦЯ СВАЁЙ МАЦІ

### *ГАСПАДАР У СВАЁЙ ХАЦЕ*

*Не жадаю быць малодшым братам*
*Ані ў Бога, ані пад прымусам.*
*Застануся, хоць і небагатым,*
*Вольным, незалежным беларусам.*

*Я — часцінка сонечных абшараў,*
*Я — крывінка Беларусі-маці.*
*Не хачу, каб хтосьці гаспадарыў*
*У маёй, хай невялікай хаце,*

*Каб усё перастаўляў нанова*
*Пад маім, маім уласным дахам.*
*Я хачу, каб Бацькаўшчыны мова*
*Узнялася над Радзімай птахам.*

*Каб штогод мацнелі яе крылы,*
*Каб адчуў душой і сэрцам кожны,*
*Колькі ў нашым родным слове сілы*
*Непаўторнай і непераможнай.*

*Я не зломак — ногі ёсць і рукі,*
*Сэрца здольна і любіць, і марыць.*
*Хопіць мне й бацькоўскае навукі*
*На сваёй зямельцы гаспадарыць.*

*І нашчадкі будуць сваю маці —*
*Беларусь любіць самааддана...*
*А суседзям, у суседняй хаце,*
*Ад мяне — павага і пашана.*

● Святло Чарнобыля.



## ТУТ СЭРЦА ГРЭЭ КОЖНЫ КУТ

*Тут пах раллі*
*і пах травы,*
*Настой палёў.*
*А што за водар баравы*
*І тапалёў!*

*Тут ранак з сонечным*
*вяслом*
*Плыве з начы!*
*Пад залатым яго крылом*
*Вясна гучыць!*

*І зачароўвае яе*
*Спеў салаўя.*
*І разам з раніцай пяе*
*Душа мая.*

*Тут сэрца грэе многа год*
*Мне кожны кут.*
*Адсюль я сам, адсюль*
*мой род,*
*Увесь я тут.*

*Зіма жыцця нас не міне...*
*У час бяды,*
*Мая зямля, прымі мяне*
*І — назаўжды.*

● Мірны атам.

● Жудасны цень.



● Чарнобыльскія прывіды.



Анатоль ЖУК

# ДЗЁННАЕ ПАЛЯВАННЕ НА МЕСЯЦ



НАВЕЛА

Неба прасіла піць. Ужо нават не магло сваім перасмяглым горлам шапнуць грымоцінкай. Хоць ледзь-ледзь, каб азвацца, што яшчэ жывое. Толькі нешта падобнае на ціхае «ў-у-у» гучала часам з яго бяздонных грудзей і амаль імгненна глухла ў гэтай скамянелай сушы. І зноў ціха. Зноў — немата. Яго бязжыццёвыя белыя вочы, падобныя да вялізных страшных бельмаў, усё яшчэ ўзіраліся ў зямлю, з надзеяй адшукаць той адзіны, той апошні глыток, што выпадкова захаваўся ў якім-небудзь балотцы шчыльна схаваным высокім чаротам, ці крыніцы — захіленай разложыстай вярбой.

Не знаходзіла. Не было. Усе балоты высахлі, крыніцы стаіліся пад зямлёй...

А рэчкі і азёры — памерлі; горкай стала іх вада. Не напіцца — смерць у ёй.

І глухла неба, абпаленае смагай, і яшчэ болей слепла...

Зямля не дыхала. Усё счарнела вакол; трава на лугах зрабілася сухой і шорсткай, як цвікі; лісце на дрэвах крані — пацяруха. І сярод усяго гэтага ні жучка, ні божай кароўкі, ні пчолкі, ні мураша, ні матылька, ні стракозы... Нават муху не пачуць.

А яшчэ ж толькі глянула лета. Самая пара... Самая-самая...

Ваўчаняты плакалі. Голасу не было чуваць, адно слёзы каціліся з вачэй, як боб. І не хацелі паказаць таго ваўчыцы — і не маглі не паказаць. Хоць не скардзіліся, не патрабавалі, але стрымаць сябе — вышэй сіл было. Іх мяккія губы зрабіліся як мазалі на лапах: сухія, ледзь-ледзь расцягваліся. І амаль не варочаўся за імі язык, што ператварыўся ў сухое палена.

Паклаўшы галаву на лапы, ваўчыца, здавалася, драмала. На ваўчанят, што, зусім аслабелыя, ляжалі адзін на адным крышачку воддаль, не глядзела. Яна чакала ночы. Чакала, калі дагарыць гэта ненавісная спякота і хоць крышачку пасвяжэе пад месячным святлом. І нібыта смага крыху адступіць. І можна будзе пайсці на новы пошук...

А пакуль старалася праваліцца ў дрымоту, каб не бачыць, як пакутуюць дзеці, каб не чуць іх... Ды і самой лягчэй будзе: сілы зберажэ.

Ужо некалькі дзён яна не выводзіла з логава ваўчанят. Бо куды выводзіць, навошта? Вакол ні кропелькі жывой. Некалі вялікае балота, што акружала іх нару, дзе бруіліся дзесяткі крыніц, да якіх прыходзілі ласі, дзікі і драбнейшыя звяры, і тое давала ваўкам магчымасць удала на іх паляваць — высахла дашчэнту, ператварылася ў сапраўдную пустыню. Зямля, дзе яно было, размалявалася жыламі расколін, усохла, нібыта камень. І далей усё загінула. Толькі кіламетраў пяць ад гэтай пустыні плыла рэчка з горкай, як палын, вадой. Мёртвая рэчка. І гэта ваўчыца ведала. Бо сканаў яе Шэры, напіўшыся адтуль. Спачатку ўвесь аблез, бытта дрэва абсмаленае маланкай, потым выпетраў у трэску і адышоў... Таму не вяла туды ваўчыца сваіх дзяцей і сама абыходзіла страшнае месца. Хоць у адзін момант ледзь не адолела яе вар'яцтва: так ужо прасілі ваўчаняты піць. І павяла была, і прайшлі амаль палову дарогі, ды раптам як гукнуў хтось: «Няможна... Смерць забярэ... Смерць...» І як ачулася. І назад. Але не хацелі вяртацца ваўчаняты; паселі — і ні з месца. Ды яшчэ ў голас давай... Тады аднаго ў зубы — і панесла, потым, вярнуўшыся, гэтак жа другога, а за ім і трэцяга. І болей не выводзіла з логава ні разу. Ды і ваўчаняты зусім слабымі сталі. Упаляваную здабычу прыносіла ім туды ж: хай ядуць, хай п'юць...

А колькі дзён сама не піла — не памятала тое. Таму амаль увесь час адчуванне было адно: нейкі шум у галаве, і ўся як быццам невядома чым да зямлі прыціснутая: так бы і ляжала, не варушылася нават.

Голад не даймаў. Ды і які голад, калі ля нары валялася амаль цэлая казуля. Тры дні назад прывалакла яе ваўчыца. Тая зусім без сіл — і яе спаліла смага — ляжала на калючым моху сярод высахлага папаратніку, які аж звінеў, быццам іржавыя бляшанкі, як толькі выпадкова ваўчыца чаплялася за яго. Казуля нават не памкнулася ўцякаць, убачыўшы перад сабой свайго спрадвечнага ворага. Адно ўскінула галаву, глянула мутнымі вачыма, нібыта спрабуючы зразумець, хто непакоіць яе, і зусім спакойна зноў апусціла долу.

Спачатку ваўчыца несла казулю на сабе, часам адпачываючы. Тады яна клала казулю на зямлю, сама лажылася насупраць, і яны глядзелі адна адной у вочы. Сілы вярталіся, зноў закідвала на сябе — і наперад. Кожны наступны адпачынак рабіўся ўсё даўжэйшы і даўжэйшы. Апошнія сотні метраў ваўчыца цягнула казулю па зямлі поцягам...

Па глытку крыві дасталося з яе ваўчанятам. Калі ўжо з казулі столькі, дык што ж казаць пра зайцоў ці пра птушак там нейкіх. Драбяза! Таму ваўчыца грэбавала імі. Хоць паляваць на іх зараз было зусім нескладана: напаўжывыя валяліся ледзь не пад кожным кустом.

Цяпер адна думка была ў ваўчыцы, адна надзея: на чалавека. Толькі яго якая-небудзь жывёліна сваёй крывёю магла ўратаваць ваўчанят. Бо чалавек не ведае смагі. У яго ёсць такая глыбокая-глыбокая яма, у якой заўсёды вада. Ён чэрпае яе адтуль колькі захоча, п'е сам і поіць усіх сваіх. Яго авечкі і свінні (а ваўчыца акурат на каго-небудзь з іх мела свой намер) таксама не ведаюць смагі. Таму ў іх жылах столькі крыві, што хапіла б аднаго з іх, каб хоць трохі спатоліліся ваўчаняты...

Ужо некалькі дзён і начэй яна сачыла за адным падворкам. І, здаецца, усё ведае: з якога боку падысці, куды падлезці, дзе хто ёсць. Калі гаспадар спіць, калі корміць і правярае жывёлу. І што лепей за ўсё: сабакі раптам не стала; два дні

таму знік некуды. І сёння ноччу яна пойдзе...

Вось толькі гэтая паскудная слабасць і шум у галаве. О, каб глыток, каб адзін усяго!.. Але яна тут жа гоніць ад сябе небяспечнае здрадлівае пачуццё, якое можа давесці да роспачы. Намагаецца зноў праваліцца ў дрымоту...

Не расплюшчваючы вачэй, у нейкі момант ваўчыца адчула, што месяц ужо на небе. Гэта адчуванне прынесла ледзь-ледзь прыкметная свежасць, якая прасачылася ў нару. Спякота прытамілася нібыта, вырашыла адпачыць. І тое імгненна перадалося.

Абвостранае пачуццё на самыя тонкія змены прыроды, пільнае вока і добрая памяць, вынаходлівасць і сіла, смеласць і дакладны разлік — залог даўгалецця ваўчынага роду. Але ўсё гэта — калі ёсць шанц, калі ўсеагульнае вар'яцтва не стала нормай...

Ваўчаняты ляжалі сцішана. Адно цяжкае іх дыханне — быццам там канаў стары загнаны воўк — давала знаць, што жыццё ўпарта змагаецца ў гэтых маленькіх істотах.

Крыху пастаяўшы каля нары, убіраючы ў сябе пахі і гукі гэтай нязвыклай напаўмёртвай цішыні, якую ваўчыцы не было мажлівасці ні з чым параўнаць і, вядома, зрабіць свой дакладны вынік наконт небяспекі, якая магла падсцерагаць, яна ледзь не вярнулася назад. Нават ужо памкнулася была, бытта сапраўды ўзнікла перад ёй нейкая нечаканасць, вымушаючы ратавацца; такой чужой і незнаёмай была ёй ноч. Але ў наступны момант ускінулася і завыла. І не пазнала сама сябе: нешта сіплае, падобнае на качынае кракание, вырвалася з горла. І аж знямела ўся. Хвілін колькі стаяла, як прыслухоўвалася да сябе, як не верыла, што гэта быў яе голас. А можа, і сапраўды не яе, можа, чужынец нейкі, а яна толькі хацела завыць, ды не паспела — той апярэдзіў...

Далейшай гэтай думцы перашкодзіў шум у галаве і вушах, і яшчэ дрымотная млявасць, што раптам ахапіла яе ўсю. Ваўчыца нават прылегла, паклаўшы галаву на пярэднія лапы, заплюшчыла вочы.

Сухое, без кропелькі вільгаці паветра, якое з шумам уваходзіла і выходзіла з грудзей, густая кроў, што ледзьве сачылася па жылах, павалі вяртала адчуванне той сілы і нармальнасці, якія б нарэшце дазволілі заняцца неадкладнай справай. У нейкі момант языком, што як калода вываліўся з пашчы, шарганула па лісці, па траве — можа, хоць кропля расы на іх,— марна. І ад гэтага няздзейсненага жадання зусім нечакана ўспомнілася, як недзе тыдні два таму назад, калі гэта ненажэрная спякота ўжо ціха і прагна выядала ўсё жывое, ратуючыся ад яе, ваўчыца ноччу выводзіла дзяцей піць... расу. Тады яе выпадала яшчэ многа. І ваўчаняты, дурэючы, радасна злізвалі яе з травы, з лісця, з камянёў. І аднойчы днём, калі спякота смагай асабліва даняла ваўчанят (балота на той час высахла, крыніцы зніклі), яе малы Белалобы — і адкуль тая падпалінка на лбе, калі з іх роду ніхто ніколі такой не меў?! — папрасіўся выпаўзці на траву папіць расы.

«Днём расы не бывае»,— заўважыла ваўчыца.

«Чаму?» — здзівіўся Белалобы.

«Бо днём на небе няма месяца».

«Ну і што?»

«А тое, што толькі месяц разлівае расу ўсюды».

Крышачку памаўчаўшы, Белалобы зноў дапытваўся:

«А дзе цяпер месяц?»

«Спіць, напэўна».

І тут Белалобы выказаў такое:

«А давайце зараз пойдзем, знойдзем месяцаву нару, упалюем яго і прывядзём сюды. І няхай ён жыве ў нас. І тады нават днём мы будзем піць расу».



Ажно разгубілася ваўчыца ад такой прапановы. Ды разумеючы малога і не знаходзячы, што адказаць, чым суцешыць, раптам, як укусіў яе хто, наляцела, накрычала на яго, маўляў, не пляці дурное, а лепей уткніся носам у хвост і спі.

І вось, успомніўшы гэта, зусім для сябе нечакана, яна пашкадавала аб тым, што так здарылася: дзіця ж неразумнае, што хацець з яго!

Але ўспамін як узнік — так і прапаў. Бо ўжо стоячы на нагах, сваім тонкім нюхам, па толькі ёй вядомых гуках і пахах, яна зноў праслухоўвала і вызначала свой шлях, спрабуючы прадугадаць усе тыя выпадковасці, якія могуць яе напаткаць.

Балота, а дакладней тое, што калісь ім было, а таксама лес мінула хутка. Ды і нядоўгая гэта дарога. На ўскрайку спынілася, насцярожылася: нічога трывожнага. Пайшла лугам. Ад высокага ў небе месяца было светла. Порстка перабіраючы нагамі, пад якімі ламалася, патрэсквала сухая трава, паціху набліжалася да вёскі. Ужо зусім мала заставалася да падворка, які яна для сябе абрала (быў ён крыху воддаль ад астатніх), як зноў адчула знаёмую слабасць і той жа шум у галаве і вушах. Пакуль не прайшло — ляжала, зліўшыся з зямлёй, нібыта шэры пагорачак, якіх было на лузе нямала. Нарэшце адчула, што сілы вярнуліся і ўсё як мае быць з галавой, пачала падбірацца да двара. Звычайна заходзячы з-пад ветранага боку, цяпер яна і не думала яго вызначаць. Не было такога боку. Была толькі распаленая сухая нерухомасць.

Перад парканам ваўчыца стаілася, напружваючы ўвесь свой слых і нюх. Цішыня. І пахаў ніякіх небяспечных.

Ваўчыца магла б лёгка пераскочыць паркан, але назад з ношай на спіне ёй яго не адолець. Таму ўзялася за падкоп. Зямля тут была мяккая, ледзь не порхаўка, ніякай цяжкасці яе капаць не было, і зусім хутка апынулася ў двары. І адразу ж, прыпаўшы да зямлі, знерухомела. Ані гуку. Паўзком пачала падбірацца да хлява, увесь час пільна азіраючыся на хату, што стаяла глыбей у невялікім садку з расчыненымі насцеж вокнамі. Ужо нос казытаў салодкі авечы пах...

І раптам, як гром з гэтага мёртвага неба,— ажно поўсць у ваўчыцы дыбам стала! — чалавечыя галасы:

«Дальбог, дарэмна ты Пірата... Хай бы бегаў. Глядзіш, і выжыў бы як-небудзь»,— жаночы голас.

«Як скажаш дурное, дык хоць вушы затыкай. Як бы ён выжыў?! Гэта табе не ежа, што, нават раз у тыдзень нешта перахапіўшы, можна ногі цягаць. Гэта — вада! Дзень, другі, трэці не пап'еш — вар'яцець станеш. А сёння кожны глыток — залаты. Студня зусім пустая зрабілася. За дзень ледзь паўвядра начэрпаў. А тут яшчэ лішні рот...» — мужчынскі голас.

«А дзе паставіў ваду?»

«Ля студні пад навесам».

«Божа ўсемагутны! Заступнік наш і абаронца! За што на нас такі праклён і такія пакуты? Няўжо мы найгоршыя з усіх, самыя дурныя і няўдзячныя; не ўмеем быць сынам бацьку і маці, братам брату, шанаваць сваё сонца і сваё неба, зямельку і сваіх дзетак? Няўжо мы нядобра жылі і працавалі, забыліся на магілкі дзядоў і прадзедаў — што на нас такое гора! Не анёлы мы, вядома, і не святыя. Мы — людзі: слабыя, грэшныя. І ўсё паміж намі ёсць: і дабро, і зло, і любоў, і нянавісць... Дык гэта ж усё тое — што ў людзей усяго свету... Дык чаму ж мы... чаму мы...»

«Хопіць галасіць! І без цябе моташна!»

«Што заўтра... што піць будзем?»

«Мачу».

Іншым разам, ледзь пачуўшы гэтыя галасы, ваўчыца маланкай бы мільганула цераз паркан — і толькі б яе бачылі. Але не цяпер. Парушаючы ўсе законы самазахавання — ляжала; не магла адмовіцца ад сваёй апошняй надзеі. Бо тады спрацуе другі закон, у якім ахвярай стануць дзеці...

Страх адабраў сілы. І хоць даўно галасы змоўклі — яна не варушылася; знядужала зусім. Да таго ж у вачах адзін за адным паплылі чырвоныя кругі. А потым узніклі прывіды: спачатку казуля на тонкіх ножках пачала выбрыкваць і смяяцца: «Паспрабуй злавіць мяне, паспрабуй»,— і як у тумане растала; затым заяцшарак, якога яна неяк прынесла ваўчанятам, каб хоць крыху спатоліць іх смагу, і ў якога крыві толькі адна кропля была, скаліўся ёй у вочы сваёй трэснутай губой: «Напіліся маёй крыві, напіліся? А вось дулю вам! Я сам сваю кроў выпіў, сам...»; і раптам як з нейкай глыбіні выплыў Шэры, такі ж магутны і прыгожы, як быў калісь: «Устань! Тое вядро з вадою, аб якім ты чула, зусім блізка... Устань і папі, і ты ўсё зможаш...»

І ваўчыца ачомалася. Доўга і пакутліва ўспамінала апошні прывід... і ўспомніла!

І амаль адразу ж нюхам злавіла ледзь прыкметнае, што не мае ні паху, ні смаку, а толькі нешта такое, што пазнаецца адразу; подых жыцця — можна так назваць...

І нібы зачараваная гэтым подыхам, на ўсё забыўшыся, ваўчыца пасунулася па зямлі — ісці не магла, ногі не трымалі — наперад. І носам уткнулася ў бляшанае вядро. Накрытае лёгкай пластмасавай накрыўкай, яно стаяла пад лаўкай на зямлі.

У ваўчыцы зноў паплылі ў вачах чырвоныя кругі. І каб не даць ім адкінуць сябе ў забыццё, як толькі магла, спешна кульнула носам на зямлю накрыўка, тая, глуха бразнуўшы, звалілася побач, і ваўчыца ўсёй мордай сунулася ў вядро...

Худы маршчыністы чалавек стаяў на ганку — і не верыў сваім вачам. Па тым, на колькі галава ваўчыцы была ў вядры, ён зразумеў, што вады там засталося, можна сказаць, слёзы. І гэта ўсведамленне як паралізавала яго: не мог ні варухнуцца, ні голас падаць. Але так цягнулася імгненне. Бо ў наступны момант чалавек ускінуў стрэльбу і грымнуў стрэл.

І, о дзіва, ваўчыца нават не глянула ў той бок. Піла далей.

Адчай і шаленства авалодалі чалавекам. Забыўшыся на стрэльбу, ён кінуўся ўніз. Збягаючы з ганка, спатыкнуўся, грымнуўся на зямлю. І ўжо не ўзнімаючыся на ногі, на карачках падпоўз да ваўчыцы, ухапіўся за хвост, пачаў цягнуць ад вядра.

Толькі на імгненне тая адарвалася ад вады: вышчарылася на чалавека і зноў піць...

Чалавек ледзь не заплакаў ад роспачы.

— Ах ты свалата ненажэрная... ах ты прорва... Што ж ты робіш... што ж ты вычвараеш...— прыгаворваў чалавек і, намагаючыся з апошніх сіл, цягнуў за хвост.

Моцныя ваўчыныя лапы ўпіраліся ў зямлю — і ні з месца.

А цяпер яны сапраўды былі моцныя. І ўся яна была лёгкая і рухомая, і, як раней, дужая.

Не мог чалавек адолець яе сілай. Нарэшце скрозь мутную заслону шаленства і адчаю да яго прабілася думка... Чалавек кінуў хвост, падскочыў да вядра і вырваў яго з-пад ваўчынай морды. Глянуў туды... і ледзь не абамлеў: толькі на самым дне калыхнуўся месяц...

А ваўчыца тым часам, сігануўшы цераз паркан, вялікімі скачкамі імчала па лузе. Наперадзе хмурыўся лес. Там яна мелася крыху перачакаць і паспытаць шчасця яшчэ раз, але ўжо ў другім двары.

У нейкі момант ваўчыца раптам адчула, што сілу і лёгкасць, якія вярнуліся да яе пасля спатоленай смагі, пачынае адбіраць невядомая ёй іншая страшная сіла. Увачавідкі рабіліся цяжкімі, як да зямлі прыліпалі, лапы. Бег запаволіўся, а хутка і зусім перайшла на хаду. Аднекуль з правага боку ішла злыбеда. Лізнула туды языком... і праглынула знаёмую саланаватую вадкасць. І аж спынілася ад нечаканасці. І ў гэты самы момант вострая маланкавая боль працяў усё цела. Яна бязвольна апусцілася на шорсткае травяное покрыва. Але галава была яснай, і ваўчыца ўсё чула — што толькі можна было чуць у гэтым выпаленым вакууме — і ўсё бачыла: і цёмны лес, які віднеўся наперадзе, і луг пад месячным святлом — нібы разлілося па ім жаўтлявае малако, і сам месяц... «Упалюем месяц... І тады нават днём мы будзем піць расу»,— успомнілася ёй. І тужліва, горка завыла, задраўшы ў неба галаву. І гэтым разам выццё было па-сапраўднаму воўчым: дзікім, страшным.

Ваўчыца спяшалася. Ды як таго не вымагалі абставіны — у лесе, сярод знаёмага папаратніку, давялося залегчы. І тое вымусілі зрабіць не шум у галаве і слабасць, якія можна было перачакаць і рухацца далей — а нерухомасць. Усё яе цела быццам налілося нейкім цяжарам, перастала падпарадкоўвацца. І ўсё ж яна не пажадала пагадзіцца з такой рэальнасцю. Увесь час залізваючы рану, ваўчыца не давала сцякаць крыві на зямлю. І ў нейкі момант адчула, што можа рухацца...

Да логава падпаўзала, перабіраючы толькі пярэднімі лапамі: заднія валакліся, як сухія палкі...

Перад уваходам павалілася набок, гукнула ваўчанят.

Выпаўзаючы з нары, адзін на аднаго злосна агрызаючыся і адштурхваючы, ваўчаняты прагна цягнуліся да раны...

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



Генрых Міхайлавіч Трацця — старшыня калгаса імя М. Ламаносава (Брэсцкая вобласць, Ляхавіцкі раён) з 25-гадовым стажам. Кандыдат сельскагаспадарчых навук, выдатны адміністратар, гаспадарнік, які маштабна глядзіць на перспектыву, Герой Сацыялістычнай Працы часоў перабудовы. Яго гаспадарка — адна з моцных у рэспубліцы. Тут з 1 га здабываюць 50—60 цэнтнераў кармавых адзінак (а пачыналі з 6), вырошчваюць зернявыя, лён, шматгадовыя травы.

Але яшчэ адзін штрых. Неяк немцы ў пошуках, як высветлілася пазней, асабістай выгады, даследавалі ворныя землі многіх рэгіёнаў Беларусі — адпраўлялі пробы на аналіз у Германію. Высветлілася, што землі калгаса імя М. Ламаносава экалагічна чысцейшыя па ўсіх паказчыках, у тым ліку чысцейшыя і за нямецкія землі. Таму што рабілі тут усё з розумам і толкам. У апошнія ж гады створанае шматгадовай калектыўнай працай развальваецца. «Калі нічога не прадпрымаць, дык вельмі хутка і дзяржава, і мы апынёмся ў галечы»,— часта паўтарае Г. М. Трацця.

# "Зямля павінна належаць

Прычыны занепаду сельскай гаспадаркі відавочныя: не зніжаючы вытворчасці, калгас атрымлівае за сваю прадукцыю ў 3—5 разоў менш даходу, чым раней. І вось калгас, каб як-небудзь пратрымацца, пачаў «пражываць» асноўныя даходы — скарачаць пагалоўе жывёлы, змяншаць плошчу ворыўных зямель. Да чаго гэта вядзе, усведамляюць далёка не ўсе. Тым больш, што дзякуючы намаганням адміністрацыі яны ў параўнанні з мінулым годам сёння аказаліся нават у выйгрышы: калгасныя справы пайшлі «ўніз», а даход калгасніка — «уверх».

— Адразу пасля выхаду Закона аб зямлі мы сагітавалі сялян узяць ва ўласнасць па належнаму ім гектару,— расказвае Г. М. Трацяк.— Людзі баяліся браць зямлю — як яе апрацаваць? Прапанавалі апрацоўваць яе агульнымі сіламі за плату па сабекошту. І справа пайшла. Зараз нашы калгаснікі забяспечаны натуральным прадуктам (бульбай, збожжам, сенам) лепш, чым 5 гадоў назад. Ну, а грамадскіх грошай застаецца ўсё меней — кошт энергазатрат зводзіць да нуля ўсе вынікі працы. Значыць, трэба перабудоўвацца на хаду.

Як? Дарагая энергія — пераходзіць на энергазберагальныя тэхналогіі. Няма азотных угнаенняў — сеяць бабовыя, і азот будзе ўсвойвацца з паветра, няма тэхнікі і паліва для шматразовай апрацоўкі палёў — дык жа можна пасеяць шматгадовыя травы, каб не трэба было бясконца зямлю варочаць. Пры неабходнасці — змяніць і структуру самой гаспадаркі — вырошчваць тое, што выгадна і па сілах.

— У сялян сёння няма асноўнага — права на зямлю,— гаворыць Г. М. Трацяк.— Не вырашана дагэтуль самае галоўнае пытанне: «чыя зямля?» Цяпер яна не наша, а дзяржаўная. І дзяржава да гэтага часу прадпісвае нам, што рабіць на ёй,— праз той жа дзяржзаказ. А былі б мы гаспадарамі, самі б вырашалі, як весці справу: якое стада трымаць (і ці трымаць), якія культуры вырошчваць — каб сабе не ва ўрон. Я перакананы: калгасную зямлю трэба спачатку падзяліць паміж сялянамі, а потым ужо гэтыя ўласнікі арганізуюцца — у калгасы, асацыяцыі, таварыствы. Тыя, хто захоча фермерстваваць, адасобяцца. Патрэбна свабода выбару. Селянін павінен быць такім

# сялянам..."




● Лён.

● Г. Трацяк з ільнаводамі свайго калгаса.



● З сынамі Дзмітрыем, Віталем і Міхасём.



Лепшы механізатар гаспадаркі Дзмітрый Шадура.

Калгасны статак.

Плануючы будучыню.

цяк прапанаваў у Міністэрстве сельскай гаспадаркі сваю мадэль рэфармавання калектыўнай гаспадаркі. Рэфармавання паступовага, крок за крокам, калі мяняецца псіхалогія людзей, звыклых да таго, што заўсёды ёсць нехта над імі — і думае за іх, і вырашае. Даўно гэта ўспрымаецца як належнае, тым больш, калі начальства паважанае і аўтарытэтнае. Значыць, менавіта паважаныя і аўтарытэтныя кіраўнікі, на думку Генрыха Міхайлавіча, і павінны памагчы калгаснікам стаць на ногі, прывучыць іх да пры-





жа гаспадаром на зямлі, як і дома. Менавіта гаспадаром. І гэтае ператварэнне селяніна з наёмнага работніка ва ўласніка — дзяржаўная справа. Бо калі цяпер знішчыць селяніна — канец усяму.

— А між тым ужо сёння 90 % калгасаў трымаюцца не за кошт вытворчасці прадукцыі, а за кошт так званай камерцыі — недзе нешта купяць, перапрададуць, так і жывуць. І дзіўная справа, ніхто гэтага быццам не бачыць! З аднаго боку — гаспадаркі, акрэдытаваныя ў банках і якія не маюць абаратных сродкаў, з другога — армія вучоных і начальства, якія нават не хочуць унікнуць у сутнасць праблемы. І толькі асобныя старшыні-адзіночкі б'юць трывогу. Але іх не чуюць.

Генрых Міхайлавіч Траццяк прапанаваў ... ватнай уласнасці, прыцягнуць да творчай гаспадарчай дзейнасці. Першапраходцам, вядома ж, заўсёды цяжэй. Але хтосьці павінен пачынаць. Дык чаму не ён, не Траццяк? Няхай пакуль у рамках дзяржаўнай уласнасці, але атрымаць для калгаса «вольную»...

Магчыма, новыя людзі, якія кіруюць цяпер сельскай гаспадаркай рэспублікі, будуць больш дальнабачнымі. І за недаўменным пытаннем: «Вы — старшыня, і сапраўды хочаце рэфармаваць калгас?!» — пойдуць такія неабходныя дзеянні. А найперш — з'явіцца разуменне, што гэта, безумоўна, дзяржаўнага значэння ініцыятыва — даць сялянам зямлю і волю. Хоць бы пакуль у адной гаспадарцы.

**Ларыса КОКТЫШ.**
**Фота Яўгена КОКТЫША.**

# Збавенне ў слове

*Таго, што не стала ўспамінам, не было.*
Антоній ПОРК'Я.

На зломе XIX і XX стагоддзяў, калі не было патрэбы ўтойваць праўду пра чалавека, адкрыта сцвярджалася, што светам кіруюць тры рэчы: любоў, голад і прага ісціны. Апошняе — прага ісціны — самае неспатольнае. Мы бясконца набліжаемся да абсалютнай ісціны, кружым вакол яе, зноў аддаляемся, каб з новым імпэтам рынуцца на яе пошукі, з душэўнай тугой адчуваючы, што ўсё ў гэтым свеце адносна. Нам нестае паўнаты інфармацыі, а таму ўсякая спроба пашырыць існуючую інфармацыйную прастору ўспрымаецца намі з удзячнасцю.

Асабліва шмат «закрытых» зон было ў тым часе, які мы, не вельмі доўга думаючы, назвалі «застоем». Як яно ўсё было на самай справе? Было гэта бясчассе ці міжчассе, перыяд упушчаных магчымасцей ці перыяд паступовага збірання сіл, каб нарэшце давяршыць пачатае ў 50-я гады? На гэтыя і іншыя падобныя пытанні мы не зможам адказаць, не абапіраючыся на сведчанні галоўных удзельнікаў нядаўняй гісторыі. На жаль, многія з іх пайшлі з жыцця, так і не сказаўшы свайго Слова пра час і пра сябе. Адны — не паспелі, другія — не адважыліся, трэція — не паверылі ў доўгатэрміновасць цяперашніх змен. Вось чаму вялікую каштоўнасць маюць пакуль што нешматлікія сведчанні духоўных пошукаў нядаўняга перыяду, якія мы знаходзім у такіх кнігах успамінаў, урыўкаў з дзённікаў, запісных блакнотаў, лірычных нататак, як кнігі Янкі Брыля «Пішу як жыву» і «Вячэрняе», што выйшлі ў свет у апошні час.

Скразны сюжэт і адной, і другой кнігі Я. Брыля можна абазначыць так: паступовы пераход з стагоддзя катастроф у Свет раўнаразных асабовых светаў, з часу абсалютнага непрымання Асобы ў час свабоднага волевыяўлення мноства асоб, сярод якіх шукае і знаходзіць сваё прыкметнае месца і творчая індывідуальнасць пісьменніка. Сваім жыццём і лёсам Я. Брыль яшчэ раз пацвярджае вядомую, але прызабытую ісціну, што парваную сувязь часоў, цэлых гістарычных эпох узнаўляе канкрэтная чалавечая асоба, якая адначасова належыць і мінуламу, і будучыні. Хіба можна адназначна сцвярджаць, што ў розныя часы адзін і той жа чалавек быў занадта непадобным, каб успрымаць яго як жывую цэласнасць? Нават у самых цяжкіх выпадках раздваення асобы чалавек усё-ткі адзін і той жа самы. Проста час, грамадскія акалічнасці, духоўная атмасфера высвечваюць у яго натуры розныя бакі чалавечай сутнасці.

У сваім неаглядным жаданні хутчэй развітацца з «праклятым» мінулым мы праводзім занадта рэзкую рысу паміж тым, што было, і тым, што ёсць. За «перабудовачным» падвядзеннем рахункаў абясцэніліся многія вельмі важныя ўрокі нядаўняга мінулага, поўнага патаемных сэнсаў і неразгаданых парадоксаў. Мае рацыю Пімен Панчанка, імя якога неаднаразова ўзгадваецца і ў адной, і ў другой кнігах Я. Брыля, калі адхіляе павярхоўны падзел на пакаленні, кансерватараў і наватараў, «культ стваральнікаў» і «хлусню выкрывальнікаў», «герояў» і «іронікаў»: «Гэта не двух пакаленняў сварка, гэта эпохі гарачая зварка. Двум пакаленням за працай не цесна: мы з аднаго ваяўнічага цеста». Сказанае паэтам яшчэ ў пачатку 60-х гадоў, калі адбывалася першая спроба вырвацца ў «царства свабоды», гучыць надзённа і ў пачатку 90-х, калі гэта спроба паўтараецца з новай сілай і новым імпэтам.

Так, у тыя глухія гады міжчасся-бясчасся ішла адкрытая вайна таталітарнага рэжыму з іншадумцамі, і рэха яе мы сустракаем тут і там у дзённікавых запісах Я. Брыля, які ён рабіў, не дужа разлічваючы на хуткую публікацыю і магчымага «праніклівага чытача». Нам важна, на чыім баку быў у гэтай цяжкай, няроўнай бойцы праўды з хлуснёю, дабра са злом пісьменнік, бо ад адказу залежыць самае галоўнае: ці выканаў ён сваё боскае прызванне, сваю зямную місію? Сімпатыі аўтара нязменна на баку тых, хто сцвярджаў ідэю — «жыць не па ілжы». А гэтым ён і сам рабіў недвухсэнсоўны выбар на карысць праўды, дабра, хараства.

Аднак куды цяжэй было выбіраць у штодзённым, дзень за днём і год за годам, цэлымі дзесяцігоддзямі, побыце. Вось дзеля прыкладу запіс аб такой стандартнай жыццёвай сітуацыі, з якой пісьменнік сутыкнуўся ў 1968 годзе, у самы разгар «ідэалагічнага супрацьстаяння»: «Сумна і горка было ад гвалту, які зрабілі над маім IV-м томам чыноўнікі. Што мне скажа, чым мне паможа Пілатовіч? Напісаў яму добра, з неабходным пачуццём грамадзянскай і пісьменніцкай годнасці. Дзіўна і гадка ісці да людзей, якія проста будуць калечыць цябе, тваё адзінае слова — без усякага права, без усякага толку, а ты глядзі і не чакай разумення, спагады... Як гэта перадаць?..»

Вядома, веданне, што недзе ёсць аднадумцы, моцна памагала, падтрымліваючы духоўна: «Чытаў «Размышления» Сахарава. І радасна было, што такія людзі ёсць, што яны не толькі думаюць і адчуваюць, але і робяць штосьці, каб лягчэй было дыхаць» (з запісаў усё таго ж 1968-га года). Але найчасцей даводзілася абапірацца на ўнутраныя, не бязмежныя духоўныя магчымасці супраціўлення злу: «Нічога, калі-небудзь выдам і тое, што цяпер знята, выпраўлю тое, што пакалечана «праўкай».

Той, хто імкнуўся «жыць не па ілжы», павінен быў перш за ўсё адказаць на пытанне, з якім сутыкаўся штохвіліны: а як жыць, калі навокал адна хлусня? Як жыць, падзяляючы лёс усіх, усяго народа, пагаджаючыся на падмену самастойнай думкі, уласнай годнасці, чалавечага сумлення? З такімі пытаннямі сутыкаўся, вядома, ва ўсе эпохі амаль кожны з сумленных людзей. Але ў савецкіх умовах гэтыя пытанні насілі радыкальны характар: або-або! Або чалавек дзеля таго, каб жыць, прадае сваю душу д'яблу, або свядома падвяргае сябе, а разам з сабой і сваіх блізкіх, цяжкім выпрабаванням. Нават уласны дом, свая сям'я, «мая крэпасць», не заўсёды былі паратункам: калі хто трапляў «у поле зроку» д'ябла, дык той не грэбаваў ужо ніякімі амаральнымі сродкамі, лез і ў душу з бруднымі ботамі. Не, не толькі адно «лунанне» ідэй адкрытага дысідэнцтва стварала грунт, на якім узрастаў духоўны вопыт пакалення.

Так, свабодны Захад у той час мог генерыраваць мноства новых ідэй, якія неўзабаве так спатрэбяцца і ім самім, і нам. Але ідэі становяцца матэрыяльнай сілай, і гэта даведзена гісторыяй неаднаразова, толькі тады, калі іх спрабуе правесці ў жыццё канкрэтны чалавек. Розніца ў магчымасцях такога ажыццяўлення задум занадта відавочная, каб аддаваць прыярытэт толькі Захаду. Ва ўмовах таталітарнага грамадства і ў самыя жорсткія перыяды заўсёды заставалася некранутай вузенькая пляцоўка, на якой адбываліся самыя вялікія і самыя крывавыя баі праўды і хлусні, і гэта пляцоўка — маўклівае і пастаяннае супрацьстаянне, па Пушкіну, самастаянне чалавечай адзінкі. Як бы ні даводзіў «таленавіцейшы» паэт, што «адзінка — нуль», любы першакласнік, які авалодаў табліцай множання, лёгка дакажа, што гэта далёка не так. Шматлікія сведчанні такога негалоснага, але надзвычай упартага, супрацьстаяння мы знаходзім на старонках аўтабіяграфічнай прозы Янкі Брыля.

Наўрад ці пацешыць аўтарскае самалюбства мая заўвага, што ў яго кнігах публікуюцца старонкі, якія свядома пісаліся «ў стол»: з часам такіх старонак з «сталоў» іншых пісьменнікаў прыкметна прыбавіцца. Нягледзячы на тое, што ў аўтара не было ўпэўненасці ў поўнай прыжыццёвай публікацыі напісанага, свае самыя адчайныя занатоўкі ён рабіў не толькі дзеля сябе. Прысутнасць чытача адчувальная: спачатку гэта, магчыма, толькі некалькі блізкіх сяброў, якім не абавязкова было зачытваць уласныя думкі, а можна было і проста пераказваць уголас абдуманае. У абліччы гэтых блізкіх сяброў пры невялікім намаганні можна ўбачыць будучага чытача, які ўвасабляе ў сабе свядомую Беларусь.

Пісьменнік быў сведкам таго, як шпарка звужалася гэта вузкае кола аднадумцаў, сярод якіх большасць — прыхільнікі беларускага Адраджэння. Яшчэ ў момант смерці Якуба Коласа дурное партыйнае начальства выказвала сваё патаемнае спадзяванне на тое, што пасля яго, апошняга гіганта класічнага перыяду беларускай літаратуры, працэс дэнацыяналізацыі беларусаў пойдзе без затрымкі: сам жа Колас, прынёсшы ў апошні дзень жыцця ў ЦК пісьмо-прашэнне, дзе выказваўся яго боль за становішча беларускай мовы, як бы праракаваў на такую гаворку. Чым далей, тым больш адкрыта разгортваўся гэты жахлівы працэс моўнага генацыду. У запісах Я. Брыля сведчанняў аб тым, што адбывалася, столькі, што падспудна выбудоўваецца цэлы самастойны сюжэт аповесці, тужлівей якой сапраўды няма больш на свеце.

Вось на юбілеі беларускага пісьменніка-гумарыста ён чуе ад суседкі, пляменніцы юбіляра: «Как вы ни старайтесь — все равно он, белорусский язык, умрет...» Вось «блакітнавокі, даволі прыгожы і сардэчны хлопец Валодзя Ж.», пабыўшы колькі гадоў у войску, ніяк не паддаецца спробам збіць яго на родную мову і гаворыць толькі па-польску, а пісьменнік не можа пазбавіцца ад «прыкрага, да сцішнаты прыкрага адчування: як жа ўсё-такі лёгка асімілюецца беларус!..» Вось запіс аб тым, як ужо самога Я. Брыля ў бухгалтэрыі літфонду папрасілі заяву напісаць па-руску — «каб ім лягчэй было чытаць». А вось словы літоўскага пісьменніка, якому збоку ўсе названыя працэсы добра відаць: «Пойдзеце вы — Пысін, Вітка, ты, іншыя,— што тады будзе з вашай літаратурай, мовай?..»

Горыч, боль, якія ахопліваюць беларускага пісьменніка, вельмі і вельмі нават зразумелыя. Ён не проста траціць кавалак хлеба, але — і гэта самае страшнае — разумее, што са знікненнем мовы і яе носьбітаў з паверхні зямной кулі будзе сцёрта назаўсёды цэлая цывілізацыя, з выпрацаванай за тысячагоддзі культурай, мараллю, духоўнымі каштоўнасцямі, што народ непазбежна ператворыцца ў статак, дэградзіруе і духоўна, і маральна са сваім лозунгам: «Абы быў хлеб!» Час ад часу ён спрабуе ўявіць сябе ў становішчы польскага, рускага, літоўскага пісьменніка: з іх «гарантаванай мовай» — якое шчасце! Але куды часцей ён думае пра сябе і свае задачы: «Быць толькі самім сабою, беларускім пісьменнікам, і то — подзвіг». Або яшчэ: «Не памятаю сябе беларускім нацыяналістам, хаця даўно і сам, і назаўсёды вырашыў, што кожная бочка павінна стаяць на сваім уласным дне». І нават так: «Днямі неяк па светлавячэрняму падумалася, што вось мяне спачатку не было, потым не будзе, а нешта ўсё-такі ад мяне застанецца. Нешта патрэбнае, чаго ў людзей раней не было, а што пабудзе ці будзе».

У апошнія гады запісы Янкі Брыля набылі прыкметна больш аптымізму, хаця і досыць асцярожнага, часам трывожнага: «Як ні марудна пакуль што разгортваецца наша нацыянальнае адраджэнне — ужо адчуваецца, што нас усё больш ды больш, і трэба думаць пра свой удзел, сваё месца сціпла, як пра месца ўдзельніка на сваім участку, работніка, які не павінен драмаць, каб не адстаць ад агульнага працэсу.

Пра гэта думаю даволі часта і часам з трывогай».

**Міхась ТЫЧЫНА.**

Янка Брыль. Пішу як жыву. Мінск, 1994; Ён жа: Вячэрняе. Мінск, 1994.

# ТЭАТРУ ЯНКІ КУПАЛЫ 75





● «Віват, імператар!» паводле Э. Енэскі. У ролі Спадара У. Рагаўцоў.

● «Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева. У цэнтры — Г. Аўсяннікаў.





● Творчая вечарына кампазітара Уладзіміра Кур'яна. Віншуюць Зоя Белахвосцік і Алена Сідарава.

Фота Белінфарм.



● Мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Раеўскі.

● Сцэны са спектакляў: «Мудрамер» М. Матукоўскага, «Пакуль не сцямнее» У. Дазорцава.

Фота Яўгена КОКТЫША.



# ПАКУЛЬ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ ТЭАТР, ЖЫВЕ НАЦЫЯ






Радавод
полацкіх і вялікіх літоўскіх князёў
Скіргайла Іван 1387–1392
Карыбут Дзмітрый Нойтвалд Северскі +1404
Андрэй Полацкі +1399
Лугвень Сямён Мсціслаўскі +1431
Канстанцін Чарнігаўскі +1393
Вігінд Аляксандр Кернеўскі +1392
Уладзімір Кіеўскі +1393
Фёдар Ратненскі +1404
Таўцівіл Конрад 1353–1390
Карыгайла Казімір Мсціслаўскі +1390
Нарымонт Глеб +1348
Любарт Дзмітрый 1320–1384
Карыят Міхаіл +1382
Дзмітрый Бранскі +1399
Воін Васілій кн. Полацкі 1326
Сорпуцій кн. Гарадзенскі 1279
Борза 1269
Лісій 1269
Сьвелкеній +1269
Трайдзень кн. Гарадзенскі Полацкі Навагрудскі 1282
Лютувер +1293
Від з роду Давіда 1270
Давід кн. Віленскі 1219
Маўкольд 1219
Васілька +1180
Брачыслаў кн. Ізяслаўскі
Рагвалод Васілій кн. Полацкі
Іван 1139
Васілька кн. Полацкі 1132–1143
Расціслаў кн. Полацкі і Менскі
Усевалад 1158
Валдар кн. Менскі Полацкі +1167
Давыд кн. Полацкі
Рагвалод Барыс кн. Полацкі
Сьвятаслаў Георгій
Раман +1116
Глеб кн. Менскі +1119

# 1995

| | ЛІПЕНЬ | ЖНІВЕНЬ | ВЕРАСЕНЬ | КАСТРЫЧНІК | ЛІСТАПАД | СНЕЖАНЬ | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ПАНЯДЗЕЛАК | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | ПАНЯДЗЕЛАК |
| АЎТОРАК | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | АЎТОРАК |
| СЕРАДА | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | СЕРАДА |
| ЧАЦВЕР | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | ЧАЦВЕР |
| ПЯТНІЦА | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | ПЯТНІЦА |
| СУБОТА | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | СУБОТА |
| НЯДЗЕЛЯ | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | НЯДЗЕЛЯ |

# МІНДОЎГ

«У той час з Божай ласкі прыслалі князі літоўскія (паслоў) да вялікай княгіні Раманавай (Ганны), і да Данілы, і да Васілька, мір даючы. Імёны ж літоўскіх князёў былі: гэтыя старэйшыя — Жывінбуд, Даўят, Даўспрунк, брат яго Міндоўг...»

Так упершыню напрыканцы 1219 або пачатку 1220 гадоў летапісы згадваюць імя літоўска-беларускага князя Міндоўга, які імкнуўся, але не здолеў утварыць і аб'яднаць новую дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае. Тым не менш пачатак быў пакладзены менавіта ім.

Першыя дзесяцігоддзі «летапіснага жыцця» Міндоўг выступае ў ролі прафесійнага ваяра-наёмніка. У 1219 — 1220 гг. разам з галіцка-валынскімі князямі ён ваюе палякаў, у 1237 г. з Ізяславам Навагародскім ідзе паходам на Мазовію. У 1245 г. Васілька і Даніла Галіцкія просяць дапамогі Міндоўгавых вояў у барацьбе з князем Расціславам Міхайлавічам. Відавочна, што, кажучы сённяшняй моваю, Міндоўг стварыў сабе імідж высокапрафесійнага воя. Да таго ж, як для любога найміта, на першым месцы стаялі грошы, а не памкненне захапіць чужыя землі, пашырыць уласнае княства. Сталіцай княства быў горад Рута (або Варута), які знаходзіўся, як і ўся «Літва Міндоўга», паміж Наваградкам і Менскам.

У 1246 г. да Міндоўга звяртаюцца куршы, якія не маюць моцы састойна супрацьстаяць немцам. Князь згаджаецца і, сабраўшы досыць вялікае войска — каля 30 тысяч, ідзе паходам на крыжацкі горад Амботэн. З налёту горад узяць не ўдалося, таму Міндоўг распачаў аблогу. Але праз нейкі час на дапамогу немцам падышоў атрад з замка Гольдынгена, які ўдарыў па Міндоўгу нечакана з тылу. Вайсковая слава зменлівая... Разбіты ўшчэнт, згубіўшы абоз і многа ваяроў, князь сам ледзь уратаваўся. А ўслед за ім, на хвасце адступаючага войска, уварваліся ў літоўскія землі крыжацкія атрады. Сталіцу свайго ўдзельнага княства Міндоўгу адстаяць удалося. Затое ўсе навакольныя землі былі спалены. Гэта моцна аслабіла пазіцыі князя на Літве, што і скарысталі суседзі. Пад уціскам іншых літоўскіх князёў Міндоўг разам са сваімі баярамі, невялікай дружынай і скарбніцаю быў вымушаны ўцякаць у суседні Наваградак.

У Наваградку Міндоўга добра ведалі і па сумесных вайсковых паходах, і па славе, якая цягнулася следам за князем. Да таго ж меў князь нястрымана жорсткі характар, не дараваў абразы. Усё гэта і вырашылі скарыстаць навагародцы. Сам Наваградак быў у XIII стагоддзі багатым і буйным горадам. Ён не зведаў ані крыжацкіх, ані татарскіх нападаў. Горад стаяў на скрыжаванні гандлёвых шляхоў, быў добра ўмацаваны, меў сталыя традыцыі дзяржаўнага кіравання праз веча, баяраў і старэйшын. Пра незвычайную заможнасць горада сведчыць хоць бы тое, што падчас археалагічных раскопак тут было знойдзена надзвычай многа замежнага шкляного посуду, вырабаў з каляровых металаў. Геаграфія гэтых рэчаў надзвычай шырокая: ад Пярэдняй Азіі і Блізкага Усходу да Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы. Маладому і моцнаму Навагародскаму княству было цесна ў старых межах. Таму баяры і знаць вырашылі скарыстаць Міндоўга ў сваіх мэтах, паглядаючы ў бок суседняй Літвы.

Недзе каля 1246 г. навагародцы абралі Міндоўга сваім князем. Для перабежчыка, які страціў сваё ўладарства, гэта быў вялікі гонар. Зразумела, не за проста так. Па-першае, Міндоўг мусіў ахрысціцца, па-другое, неад'емнай умоваю яго княжання было вяртанне пад уладу князя Літвы, а фактычна — пад уладу Наваградка. Што тычыцца першага, то Міндоўг, вядома, ахрысціўся. Праўда, як адзначаюць летапісы, да канца жыцця князь застаўся язычнікам: прыносіў ахвяры багам (сярод іх заячаму богу Медзэйну), нябожчыкаў загадваў спальваць і «паганства сваё яўна рабіў». Што да заваёвы Літвы, то, разумеючы адказнасць падобнага мерапрыемства, некалькі гадоў Наваградак з Міндоўгам рыхтуюцца да заваёвы Літвы. Збіралася зброя, патаемна вучыліся ваяры. Магчыма, ужо ў гэтыя часы, як значна пазней будзе рабіць Вітаўт, навучанне вялікага войска праводзілася падчас ловаў.

І вось, у 1248 — 1249 гг. Міндоўг з дапамогаю навагародцаў «заняў усю Літву», далучыўшы да сваёй новай сталіцы ўсе землі аж да Менскага княства. Як і чакалі навагародскія баяры, у дасягненні мэты Міндоўг не спыняўся ні перад чым. Падманам, хітрасцю, жорсткімі забойствамі сваіх былых паплечнікаў, а тым больш ворагаў, ён усталёўваў сваю ўладу. Князі Таўцівіл, Эрдзівіл, Вікінт, якія ў свой час выгналі Міндоўга з Літвы, самі сталі выгнаннікамі. Міндоўг жа раздаваў новыя землі навагародцам і іншым сваім хаўруснікам.

Зразумела, што выгнаннікі не змірыліся са сваім лёсам і шукалі падтрымкі ў галіцка-валынскіх князёў альбо крыжацкага ордэна. Тактыка гэта была старая і добра вядомая. У тым ліку і Міндоўгу. Міндоўг таксама звярнуўся да ордэна і непасрэдна да магістра Андрэя Сцірланда, каб той не толькі не прымаў уцекачоў, але і забіў іх. Просьба была падмацавана каштоўнымі падарункамі і коньмі. У адказ немцы выставілі ўмову: «Ахрысціся». Тым часам выгнаннікі былі ўжо на Валыні ў Данілы Галіцкага.

У планы галіцка-валынскіх князёў, зразумела, не ўваходзіла ўзмацненне і ўзвышэнне Наваградка праз заваёву Літвы. З-пад іх даўняга палітычнага ўплыву выходзілі вялікія і багатыя землі, якім раней можна было дыктаваць сваю волю, абкладаць данінаю, патрабаваць вайсковай падтрымкі. Разам з тым яны разумелі: магчымая новая вайна будзе не з літоўскім удзельным князьком — Міндоўгам, а з Наваградкам, які стаіць за яго спінаю. Таму Даніла Галіцкі па першым часе звярнуўся за дапамогаю да Польшчы. Але палякі не падтрымалі яго, маючы сваю рацыю: з дзвюх бедаў Галіцка-Валынская Русь была для іх большаю за Наваградак і Літву разам узятыя. Тады Даніла распачынае адкрытую вайну супраць Міндоўга, прыкрываючыся князямі-выгнаннікамі. Ім удалося схіліць на свой бок жамойтаў і ятвягаў, але дыпламатычныя захады да ордэна праваліліся.

Падтрымка крыжакоў была, як паветра, неабходна Міндоўгу. Таму ён згадзіўся і ахрысціцца, і прыняць карону ад самога папы рымскага. Калі пад ударамі Данілы Галіцкага палала Наваградская зямля, ордэну было проста дамагчыся ад Міндоўга ўсяго. 6 ліпеня 1253 г. князь наваградскі ўсклаў на сваю галаву карону, а крыжакам былі развязаны рукі ў заваёве земляў жамойтаў, ятвягаў і куршаў. Дарэчы, у далейшым згоды ці дазволу ад Міндоўга не патрабавалася. Крыжакі самі рабілі падробныя граматы, з якіх вынікала, быццам бы Міндоўг аддаваў крыжакам тыя ці іншыя літоўскія землі. Між іншым, некаторыя з гэтых зямель Міндоўгу зусім не належалі. Наколькі вялікаю была цікавасць да Літвы з боку папскага прастола, паказвае той факт, што ў Наваградку пры Міндоўгу была заснавана нават асобная біскупская катэдра. Супраць гэтага выступаў уплывовы рыжскі біскуп Альберт, бо заставаўся без велічэзнай літоўскай парафіі. Але Навагародку і Міндоўгу на шляху незалежнасці была патрэбна і незалежная царква. Так просты каплан Хрысціян стаў першым літоўскім біскупам.

Тым часам вайсковыя паходы Таўцівіла, Вікінта ды і самога Данілы Галіцкага на наваградскую Літву станавіліся ўсё больш спустошальнымі. У 1253 г. Даніла з сынам і братам Васількам, далучыўшы да сваіх войскаў стэпавікоў-полаўцаў, прымусіўшы стаць у свае шыхты турава-пінскіх князёў, пайшлі вялікім паходам на Міндоўга. Вайсковая ўдача зноў адвярнулася ад наваградскага князя. Адзін за другім губляў ён гарады і землі, ад мірных перамоваў адмаўляўся Даніла. Міндоўг губляў падтрымку з усіх бакоў. Таму ён даручае і вайсковыя і мірныя справы свайму сыну Войшалку. У якасці наваградскага князя Войшалк і заключае з Данілаю мірнае пагадненне. Міндоўгу засталася на княжанне толькі яго ранейшая Літва, дзе ён цалкам падпарадкоўваўся Галічу і Валыні.

Становішча Міндоўга ў Вялікім княстве стала вельмі хісткім. Гэта разумелі ўсе: ад роднага сына, да жамойцкага князя Траняты і нальшанскага князя Даўмонта. Транята схіліў Міндоўга на вяртанне у язычніцтва і барацьбу з ордэнам, але кінуў аднаго на волю лёсу. Міндоўг пасварыўся з усімі суседзямі, пазбавіўся падтрымкі бліжэйшых сяброў. У дадатак, пасля смерці жонкі — Марфы, ён прымусіў яе сястру — жонку Даўмонта — стаць ягонай. Міндоўг запрашаў яе даглядаць за сваімі малымі дзецьмі, але падмануў. У выніку — Даўмонт з Транятаю нечакана напалі на Міндоўга і забілі яго разам з сынамі. Адбылося гэта ў 1263 г. Так скончылася жыццё і валадаранне першага беларуска-літоўскага караля. Дзе ён быў пахаваны, дакладна не вядома. Магчыма, як кажа паданне, паблізу Наваградка. Але, хутчэй за ўсё, ён як язычнік быў спалены, а над рэшткамі ягонымі быў насыпаны вялікі курган.

Дзеля праўды трэба адзначыць, што Міндоўг быў добрым воем, але дрэнным палітыкам. Разам з тым, менавіта з ягоным жыццём і дзейнасцю звязана выспяванне ідэі аб'яднання спрадвечных беларуска-літоўскіх зямель у адну дзяржаву. Хай сабе аб'яднанне так хутка не адбылося і сам князь-кароль часам быў падобны да пешкі ў хітрых руках (дарэчы, у тагачасным Наваградку вельмі любілі гуляць у шахматы), але асобныя моцныя і слабыя, вялікія і малыя княствы-землі былі гатовы да яднання, каб супрацьстаяць знешнім навалам з поўначы і поўдня. Што з цягам часу і адбылося.

Малюнак
Арлена КАШКУРЭВІЧА.

Сяргей ТАРАСАЎ.

# Лех ВАЛЕНСА, Прэзідэнт Польшчы:

"У 2000 годзе паміж намі не будзе граніц. Я тады ўжо буду на пенсіі, сяду на ровар і паеду вудзіць рыбу на Беларусь".

Валерый ДРАНЧУК, журналіст:

"Што да ровара як сродку народнай дыпламатыі, дык я, няйнакш, апярэдзіў пана Валенсу на шэсць гадоў".

# НА МІНСКІМ РОВАРЫ ДА СУСЕДКІ ПОЛЬШЧЫ

## Лірычны дзённік аднаго падарожжа



Вельмі ўцешна і абнадзейліва, што Прэзідэнт суседняй дзяржавы памятае словы, якія ён сказаў некалі ў Мінску. Факт, што на іх не забыўся, хоць мінула ўжо два гады з нечым, пасведчыла прэса на пачатку 1995 года падчас візіту ў Польшчу беларускага спікера Мечыслава Грыба.

Сказанае Валенсам — як абяцанак на лепшае, як жывая нота неўміручага аптымізму — мне спадабалася яшчэ тады; я занатаваў словы ў свой блакнот, хоць на прэс-канферэнцыях рэдка дастаю ручку.

Цяпер жа зноў парадаваўся. І за пана Прэзідэнта, і... за сябе самога. Бо згаданыя словы хораша і нечакана леглі на мае ўспаміны пра нядаўняе велападарожжа (пачатак леташняе восені) па ціхай польскай правінцыі. Цешуся натуральнасці: вось так паядноўваць асабістыя ўражанні і адчуванні з усім, што вонкава лучыцца ў адзін чароўны — і аптымістычны! — узор таражытага.

«Што, на ровары!?»—мой транспарт выклікаў спачатку здзіўленне, пасля — захапленне, а ўрэшце — нават замілаванне і зайздрасць. Нюансы скепсісу і спагадлівасці, што мелі месца ў асобныя моманты, я схільны хутчэй прапускаць, чым прымаць блізка. «Вы першы...» — заўважыў памежнік-беларус Андрушчанка. Паўгадзіны раней ён увогуле сумняваўся, што мне ўдасца перасекчы Варшаўскі мост такім простым спосабам. Далажыў начальству пра «надзвычайнае здарэнне» на даверанымі яму пасту, пры гэтым я заўважыў ноткі зычлівасці і прыязнага спрыяння, праўда, пасля таго, як я паспеў паказаць яму дакументы і рэдакцыйную адносіну. Кароткае знаёмства за дзвярамі службовых кабінетаў, дзе мяне, прыемна зазначыць, ані не абразілі ценем падазронасці, я хутка ўладжваў фармальнасці, аднолькавыя для ўсіх. У мой заплечнік ніхто не заглядваў (відаць, бачылі наскрозь), а што да ровара, дык адзін польскі памежнік толькі запытаўся, ці не разваліцца часам у дарозе. Было зразумела, што ён мне гэтага не жадае і частку маіх турботаў як бы падзяляе са мной.

Вядома ж, мяне не прапусцілі б, калі б не афіцыйная папера з просьбай «аказаць садзейнічанне», бо сямідзённая паездка журналіста была не проста прагулкай (гэта быў бы, хутчэй, варыянт ідэальны), а нешта крыху іншае — «акцыя ў падтрымку веласіпеда як найбольш экалагічнага сродку перамяшчэння» (так было напісана ў «карт-бланш»). А яшчэ сваё падарожжа я рабіў у гонар польскіх паэтаў Леапольда Стафа і Тадэвуша Ружэвіча, якіх вельмі люблю. Спроба «ідэалагізаваць» паездку азначала не што іншае, як зрабіць яе змястоўнай па задуме, надаць ёй знешняй чыннасці. Пазней гэта сфармулявалася ў радкі, якія мне замянілі дэвіз: «Праблема аздараўлення навакольнага асяроддзя і бяспекі жыцця на зямлі куды лепш асэнсоўваецца, калі едзеш на ровары, а не ціснеш на газ легкавіка». Трансгранічнасць падарожжа рабіла гэтую выснову яшчэ больш пераканальнай. Я ехаў спасцігаць суседнюю краіну з глыбіні яе ландшафтаў, матывы якіх унутрана прадчуваў — з паэзіі, жывапісу, музыкі. Я мусіў у гэтым запэўніцца на ўласныя вочы; мяне цікавіў пейзаж, асяроддзе, стан прыроды, аблічча мястэчак і вёсачак, хутароў, людская аўра. Я ехаў насустрач Ружэвічу («Восень / дажджы за вокнамі пралятаюць / лопаюцца каштаны / падскокваюць / хлопчыкі бягуць са школы»). А Стаф нібыта «заставаўся» ў Мінску («Пабудзем дома, пыл змахнём са стула»).

Калі пакідаў сваю гарадскую хаціну, кінуў позірк на стол-бюро, кніжныя паліцы, на сынаў куток, на мноства прадметаў сямейнага ладу-прытулку, на ўсю, адным словам, музейную хатнюю нерухомасць. І павеяла на мяне такой здрадлівай утульнасцю, што запытальна падумаў: я насамрэч ахвярую вось гэтым хатнім спакоем, уладжаным звыклым парадкам ДЗЕЛЯ ТАГО, каб знайсці іншы спакой, дарожны, паяднаны з рамантыкай, прагаю руху, волі і ветру?

Нібыта згукі паланеза бралі ў палон: усё навокал рабілася шматзначным, істотным, нават сімвалічным, быццам з гэтым развітваешся назаўжды, пакрываючы любоўю і нязмернаю ўдзячнасцю.

***Я рэкламую мінскі дарожны ровар нагэтулькі, наколькі зведаў ягоны камфорт падчас 7-дзённай вандроўкі па Польшчы і наколькі ўпэўнены ў экалагічных перавагах ціхаходнага транспарту над усім, што парушае адвечны лад і труціць паветра.***



Шчаслівую палёгку адчуў, калі закруціліся колы ровара і я набраў тэмп. Акурат з дожджыкам. Цёплым, грыбным. Здавалася, не абложным. Падумалася, на дарогу, на ўдачу. А дома няхай растуць грыбы, даспявае бульба.

Плынь Буга здалася мне велічнай і таропкай, я паглядзеў на гадзіннік, які паказваў пакуль што «мясцовы час» — 16.40. Шэрыя хмары, з якіх нядаўна сыпаў непрытульны дождж з ветрам, пачалі рассейвацца, і ў паветры палагаднела.

Памежныя бар'еры з іх выкшталцонай сістэмай пропуску былі цалкам за спінай, і пада мною ўжо шуршэла на мокрым асфальце не менш як божая калясніца.

Праехаў першыя вёскі. У расе садоў і гародчыкаў, з пахам гною, галасам свойскае птушкі, цялячым рыканнем. Першымі буслянкамі на бетонных слупах камунікацый, першымі крыжамі-каплічкамі, першымі нетаропкімі польскімі «фіятамі», якія альбо пераганялі мяне, альбо рухаліся насустрач. Буслянкі, святыя каплічкі і «фіяты» — тры адметнасці, без якіх дарогі польскай правінцыі мне ўжо цяжка ўявіць.

Я не быў у Польшчы і з даўняга часу песціў у душы летуценні аб хуткім спатканні з блізкай краінай. Магчымасць паехаць «на торбах», якая апошнім часам з'явілася на хвалі камерцыі, не рабіла маю мару колькі-небудзь рэальнаю ў блізкім часе, хутчэй наадварот. Філасофскае непрыманне рыначнага варыянта паездкі дазваляла заставацца адносна цярплівым і неўзаметку, знутры, падказвала выйсце. Я яго знайшоў. Ніякіх аўтобусаў і цягнікоў. Сам-насам, адзін. Знаёмства будзе пяшчотным і таямнічым. Раскаваным і незалежным. Еду — як да каханай. Сустрэнемся каля дуба.

Мы пазашываліся ў аўто і на свет глядзім як з амбразуры.

Успомніў сярэдневяковых рыцараў-авантурыстаў, якія калясілі па дарогах Еўропы, не мінаючы Літвы — Беларусі, і ўсё, што трапляла на вока, занатоўвалі словам на паперы. Калі «рыцарскі» сіндром авантурыста хоць у нейкай меры сёння ўласцівы і мне, дык паходжанне яго найперш ляжыць у маёй даўняй традыцыі — з дапамогай ровара падтрымліваць сувязь з малой радзімай. Тут грэх не сказаць, што дарога Стоўбцы — Новы Свержань — Гавязна—Нясвіж асветлена імем самога Сыракомлі, ладам яго думак і вобразаў, выказаных перш-наперш у знакамітых «Вандроўках...» Ягоныя «ваколіцы» шчасліва супалі з маімі; няспешная хада майго двухколага фаэтона, бадай, не нашмат шпарчэйшая за хаду коннага экіпажа. Я мог перамяшчацца і ў часе, на фарбы захаду, напрыклад, глядзець вачыма зачараванага Уладзіслава, які вяртаецца ў нясвіжскі замак. Дадайце сюды хаду асацыяцый, каб зразумець, што на гэтай дарозе не магла не выспець задума перасекчы не адно стаўпецка-нясвіжскую мяжу, але і Варшаўскі мост.



● Убачанае — застанецца...

● На ўлонках сядзібы Яна Каханоўскага ў Чарнаце было асалодаю ўспомніць ягоныя радкі: «...Дай бог застацца мне / у спадчынным гняздзе». І ён застаўся...

Заплечнік-пляцак атрымаўся пакоўным, як ні стараўся абысціся без лішніх рэчаў. Прыладзіў яго на багажніку без усялякіх для гэтага прыстасаванняў, такім чынам, каб маналітнасць дарожнага экіпажа была надзейнай. За плечы ўскінуў маленькі рэчмяшок — з туалетнымі прыладамі і фотаапаратам. Вельмі прыдалася паясная сумачка; блакнот, самапіска ды ўсе неабходныя дробязі былі пад рукой.

Лебедзева, Дабратычэ, Кастамлоты мінуліся цягам першае гадзіны. Вёскі польскага Прыбужжа вонкава мала чым розніліся ў параўнанні з процілеглымі беларускімі. Параўнанні былі яшчэ свежыя, бо днём напярэдадні я праехаў берагам беларускага памежжа ў бок Тамашоўкі, адкуль бачна не адно Польшча, але і суверэнная Украіна. У мытным камітэце, на жаль, далі памылковыя звесткі, што тут адчынены пераход. У сельсавеце, дзе я адзначыў камандзіроўку, запэўнілі: звесткі заўчасныя, давядзецца вяртацца ў Брэст. І як мага кінуліся глядзець дакументы: ці не шпіён?

● Гадзіннік храма паказваў 13.30.





Адчуў сябе няўтульна і паспяшаўся развітацца з яўна незычлівымі дамамі. Відаць, не ўлічваў спецыфіку памежнай вёскі.

Аднак самае непрыемнае чакала на вуліцы, калі я сеў на ровар і праехаў метраў сто. Са мною параўняўся юркі «уазік», і голас з кабіны гучна скамандаваў: «К забору!» Я працягваў заставацца ў сядле. Настойлівы вокрык паўтарыўся... Пасля высветлілася, што гэтак няветла з незнаёмцам абышоўся службовец мясцовай памежнай заставы. На ягонае «Ваши документы» я адказаў, што хацеў бы спярша даведацца ад сустрэчнага, на якой псярні яго цвічылі. «Кто вы такой? Ваши документы!..» — нахабна настойваў службовец. Калі глянуў у рэдакцыйнае пасведчанне, прыкметна змякчэў, пачаў апраўдвацца...

Кодэнь — чыстае ўтульнае мястэчка з гожа забудаванымі вуліцамі, прысядзібнымі аздобамі — сведчаннем наяўнасці эстэтыкі і густу жыльцоў — сустрэў касцельным перазвонам. Вечаровыя промні залацілі верхавіны дрэў, шпіль храма і крыжы на могілках. Я перавёў гадзіннік на гадзіну назад. Спыніўся каля аборы ў цэнтры мястэчка, каб палюбавацца на аплеценую лазовым коллем сцяну ды стромкую чатырохскатную саламяную страху. Помню час, калі ў школе настаўнік казаў пра чарговы прарыў савецкае вёскі да новага — усе хаты пад шыферам. А вось гляджу і думаю, што так, яно і прыгажэй, і больш дыхтоўна.

Урачыстая веліч могілак. Каля ўвахода — калоны з анёламі. І каваная брама, і паўметровыя скульптуры анёлаў пазначаныя густоўнасцю, эстэтыкай традыцыі, перад чым міжволі схіляеш галаву ў пашане. На кладах — ніводнае агародкі. Але каменю больш, чым у нас. Помнікі спрэс у вялікіх манументальных крыжах.



Дарога ў прыцемках цераз лес. Паветра свежае, чыстае. За павароткай два хутаркі. Спыняюся каля другога папіць, а заадно спытаць пра начлег. Аднак позняму госцю не адчыняюць, вяртаюся назад да брамкі. Росны ўтравелы двор, невялікі садок, воддаль пунька. А з коміна салодкі дымок... Як хацелася тут, сярод лясной паляны знайсці кароткі спачын, каб раніцай прадоўжыць шлях.

За лесам вёска Загораў. У мужчын пытаюся пра начлег. Рэакцыя досыць стрыманая. Адзін кажа: едзьце да солтыса, ён мусіць глянуць у пашпарт і даць раду, маўляў, такі парадак. Паказалі сядзібу і назвалі імя: Браніслаў Шумчык.

Для знаёмства паказваю пашпарт і тлумачу намеры. Пан Браніслаў — гадоў 35, сярэдняга росту селянін — спяшаецца запэўніць, што ўсё гэта яму зразумела і праблемы з начлегам няма. Аднак выпрашыў заручыцца падтрымкай жонкі: што скажа яна?.. У Шумчыкаў ладны цагляны дом і вялізная цагляная абора, дзе рохкала ды круціла рогам, відаць, немалая жыўнасць.

Нарэшце, гаспадар ставіць кропку і прапануе мне весці пад павець ровар ды ісці ў хату піць гарбату. Я паставіў свой транспарт з доляй апаскі, бо паветка збоку аборы была без дзвярэй. Але тут жа супакоіў сябе тым, што мой ровар не будзе адзінай каштоўнасцю побач з разнастайным гаспадарскім інвентаром, схаваным не ад чалавека, а выключна ад неба. Стаяў тут і трактар з рэзкім пахам саляркі, і два прычэпы, ды яшчэ шмат іншага дробнага начыння, на якім лёгка ўгадваўся ўвесь агратэхнічны ланцужок земляробчых клопатаў. Мне ж было і радасна, і дзіўна, што ўся гэтая мехгаспадарка належала адной фермерскай сям'і, аднаму двару гаспадара-прыватніка. Ад тэхнічнай базы маіх дзядоў-уласнікаў засталася ў поўнай ацаленасці толькі арфа, усё астатняе ляжыць закапанае ў зямлі на гумнішчы ці даўно скончыла век бязладнага калектыўнага ўжытку.

Калі зайшоў у хату, гаспадыня ўжо гатавала ваду, паспела нарэзаць памідораў, накроіць хлеба. Да вячэры запрасіла па-свойску, звыкла, нібы суседа. І толькі хлапчукі 9 і 12 гадоў з цікавасцю сачылі за мной. Прыстойна і «гжэчна» падзячылі за пачастунак; час, які заставаўся да сну, бавілі з ахвярным цярплівым катом ды ўпрыглядку да нечаканага госця з-за Буга.

Пані Крысціна — так звалі гаспадыню — паклала нарэшце рукі на калені і, адчуўшы маю цікавасць да жыцця польскай сельскай сям'і, паскардзілася на вялікую гаспадарку і «ценжкую» штодзённую працу. Браніслаў, забавіўшыся недзе ў суседа, нарэшце вярнуўся на добрым падпітку, перапрасіў нас і прапанаваў «усе праблемы» абмеркаваць заўтра.

Першыя промні новага дня мне ўжо свяцілі ў дарозе. Я жадаў шчасця сям'і, якая дала мне першы прытулак пасля незвычайнага, поўнага хваляванняў дня.

Крысціна, калі знаёміліся, на маю беларускасць адрэагавала з мясцовай звыкласцю: «Росі і Беларусь — адно і тое ж». Аднак Браніслаў тут жа ўдакладніў, што еднасць з Расеяй была, ды распалася... Да ягонага каментару я не мог нічога дадаць, адно заўважыў сам для сябе, што гэты фермер газеты чытае. Ён выявіў дасціпнасць і ў пытанні экалагічнага падтэксту маёй вандроўкі. Ровар як сродак міжнароднага турызму, ста-

● Мост праз Вепш.

● Польская правінцыя можа ганарыцца дагледжанымі дарогамі.

● У этнаэкалагічнай панараме гэтае збудаванне займае не самае першае месца... калі не ўлічыць, што ў яго духмяным пухавіку я правёў адну з самых лепшых начэй вяртання дадому.







сункаў краін-суседзяў, а таксама аздараўленне навакольнага асяроддзя адразу выклікаў яго цікавасць і разуменне актуаліяў, якія за гэтым стаяць.

А яшчэ, напачатку, як толькі парукаліся і я назваўся беларускім «дзеннікажам», Браніслаў спытаў: «Якую інфармацыю пан мае збіраць: эканамічную, палітычную ці?..» «Экалагічную»,— пачуў у адказ. На што цвёрда зазначыў: «У нас, пан, большы плюс». Што ён трымае на ўвазе і які грунт мае тут ягоная ўпэўненасць параўнання, я так і не даведаўся. Аднак пазіцыя Браніслава міжволі, асацыятыўна ілюстравалася маім свежым асабістым назіраннем, што ўразіла як маланка. У ваколіцах Кастамлотаў зазірнуў у лясок, што з абодвух бакоў ахінаў дарогу. І... Матка Боска! На чорнай плешыне папялішча валяўся ўпаковачны ўтыль, надзвычай даступны сваімі назовамі: «Освежитель воздуха «Майский», бляшанкі з-пад «Молока», 8 бутэлек «Рояля». «Божухна...— зноў уразіўся, усаромлены, я.— Маіх родных ваколіц ім ужо мала, двухногія шкоднікі дабраліся і сюды».

Раніца сонечная, аж не верыцца, што яшчэ на досвітку за вокнамі шамацеў дождж.

У Харашчынцы — прылясной утульнай вёсачцы — налічыў ажно за дзесяць будынкаў, накрытых саломаю. Свіронтчык з краю вёскі нават закарцела перамаляваць: зухаватая шапка буслянкі на вільчыку як бы вянчала і саму вёску, і хораша ўплятался ў яе назву. Некалькі прыватных новабудоўляў, якія, было відаць, каштавалі гаспадарам шматмільённых пазыкаў, сведчылі не адно пра матэрыяльны бок, але і эстэтычны. Стандарты сучаснага жытла гарманічна суседнічалі з этнаграфічнымі рарытэтамі, несучы з сабой новыя і, відаць, не для ўсіх даступныя каштоўнасці.

Каля аднаго асабняка ў асадзе векавых дрэў я спыніў хаду, каб зрабіць фотаздымак. Па шырокай лоджыі паходжвала ў ранішнім цяньку аўчарка, другі сабака велічна палежваў, час ад часу паглядаючы на дарогу. Дзялка сядзібы — сотак дзесяць зямлі — абнесена драўлянай агароджай; запомніліся клумбачкі з яркіх асенніх кветак на роўным зялёным аксаміце пад вокнамі.

Захацелася ведаць, хто ж гаспадар гэтай досыць шляхетнай «нерухомасці» на фоне астатняй, па-вясковаму аднастайнай. Дазнацца не ўдалося, хоць неяк міжволі ўсплыло з пачутага каларытнае слоўка «варшавяк». Можа, мастак ці пісьменнік, падумаў з натуральнай павагай да творчай варшаўскай эліты. Яшчэ сёння на маёй радзіме могуць пры нагодзе ўспомніць арандатара-варшавяка ці гміннага чыноўца і нават назавуць яго прозвішча.

(Толькі праз некалькі дзён, вяртаючыся цераз Тучна — суседняе мястэчка, пазначанае на картах,— выпадкова даведаўся, што ў Харашчынцы насупраць драўлянага касцёла прыгожы дом збудаваў сабе сам настаяцель храма. «Усё зрабіў сваімі рукамі» — падкрэсліла кабета з выразным жаданнем засведчыць павагу да «ксенжа».)



Час ад часу трапляюцца воку астраўкі пакінутых хутароў, добра знаёмыя па родных айчынных краявідах. Адчуваю ў кожным з іх боль чужой страты. Так сыходзяць пакаленні не ў адным маім краі. Рэшткі саду, разбураныя падмуркі дома, зарослая сцежка да калодзежа...

● **Радзынь-Падляскі. Выява бажаства ў сцяне грамадскага будынка.**

● **Фелікс Сахарчук з Кодэня змяніў прафесію пекара і стаў патомным хлебаробам.**

● **Сям'я фермера Павала Паўліка з Бакінкі Паньскай запрасіла мяне на начлег.**

● **У мястэчку Жэжын.**

**Фота аўтара.**



Янка ГАЛУБОВІЧ

# ЗАЛАТОЕ ПРАВІЛА

## КАЗКА

На ўзлеску каля дуба хатка з лазы стаяла. У хатцы той з сынамі, адным большанькім, а другім меншанькім, шэрая зайчыха жыла. Хатка іхняя зусім старэнькая была. Страха як рэшата, у сценах — дзіркі па кулаку.

Аднойчы, калі на бярозках пачало лісцейка жаўцець, паклікала зайчыха сыноў і гаворыць ім так:

— Восень скора, дзеткі. Дажджы пойдуць, а там, як кажуць, і зіма не за гарамі. Будзем зубамі ляскаць ды дрыжыкі ганяць. Давайце хатку да ладу давядзём.

Цягае зайчыха ад рэчкі з меншанькім сынам лазовыя галінкі, а большанькі і не думае ім дапамагаць. Скруціўся клубочкам пад кусцікам ядлоўцу і ляжыць. За сном і свету не бачыць. На другі дзень меншанькі не вытрываў і пытае брата:

— Дакуль ты будзеш ката за хвост цягаць? Гэта значыць, не рабіць нічога.

— Зубы баляць, аж у мазгі коле,— застагнаў, скрывіўся большанькі.

— У цябе заўсёды так, калі трэба за якую работу брацца. То зубы баляць, то галава. Не кожны хворы, хто стогне,— уздыхнуў меншанькі, падняў з зямлі галінкі і да хаткі пацягнуў.

Перазімавала ў новай хатцы зайчыха з сынамі, а вясною і кажа ім:

— Будзем капусту, сыны, садзіць.

Але зноў не паслухаўся маці большанькі. Гойсае каля рэчкі за стракозамі, а пра работу і думаць не хоча. А восенню, калі вырасла капуста, так захацелася пакаштаваць яе, што аж слінкі пацяклі ў роце. Але тут меншанькі і кажа яму:

— Э не, браток. Хто не працуе, той і не есць. Толькі і ведаў ты, што цэлае лета стракоз забаўляць. Хай яны і кормяць цябе за гэта.

Зніякавеў зайка і пайшоў да рэчкі стракоз шукаць. Але ўжо халады пачаліся і зляцелі з рэчкі стракозы. Сядзіць зайка на беразе, дый думае, што далей рабіць. Пасядзеў так крыху і пайшоў берагам рэчкі. Прайшоў з паўвярсты і цяпельца наперадзе сябе заўважыў. Прыблізіўся і бачыць: стары бабёр з шырокім, як лапата, хвастом на цяпельцы юшку варыць, а тры бабры з берага на дно рэчкі галінкі асіны цягаюць. Запас, значыць, на зіму робяць.

«Ну,— думае зайка,— пашанцавала! Хоць юшкі ўволю наемся, а то кішкі даўно марш іграюць». Прымасціўся каля цяпельца і чакае, пакуль бабры вячэраць пачнуць. А бабёр-кухар паглядзеў на яго і пытае:

— Зай, ты адкуль такі затурканы?

— Надта ж есці хочацца,— прызнаўся ён.

— Добра, пакармлю я цябе,— кажа бабёр.— Толькі спачатку пацягай да берага галінкі асіны. Сынам маім дапамажы, а то ўпацелі яны адны, бедныя.

Не хочацца зайку за работу брацца. Закруціўся ваўчком дый пытае ў бабра:

— А калі не працуючы пад'есці?

— О не, зай. У нас, баброў, існуе залатое правіла. Яно і для цябе не выключэнне.

— А што гэта такое? — не стрываў, запытаў зайка.

— Хто не працуе — той і не есць. Вось так. Цяпер зразумеў?

— Зразумеў,— незадаволена буркнуў зайка, нехаця падняўся і да сыноў бабра падаўся. Галінкі ім да рэчкі цягаць.

Цэлы тыдзень працаваў у баброў зайка. Нарэшце надакучыла яму і надумаў ён лягчэйшага хлеба шукаць. Скача зайка паціху па бярэзніку і раптам бачыць звера: поўсць на ім доўгая, бурavата-шэрая, з чорным адценнем, вушы невялікія, стаячыя, а на хвасце чорна-бурыя кольцы. «Гэта ж янот!» — здагадаўся зайка. Сядзіць янот на пяньку ля вялікай кучы морквы і ўплятае яе адну за адной папоўніцы. Прыпыніўся зайка, папрасіў у янота морквы пакаштаваць. Той, не спяшаючыся, з пянька злез, павярнуў да яго кароткую з шырокай вострай мордачкай галаву дый кажа:

— Так і быць, зай. Пачастую я цябе морквай, але давай спачатку з табой у залатое правіла згуляем.

— Гэта як? Нейкую работу трэба зрабіць?

— Малайчына, здагадлівы! — зарадаваўся янот.— Сам ведаеш, што зіма скора ляжа. А каб морква не прапала, трэба для яе яму выкапаць. Мне аднаму з гэтай работай не справіцца. Так што дапамагай, зай.

Да самага цямна працаваў зайка з янотам. Назаўтра, яшчэ і сонейка не выкацілася з гнязда, янот зноў разбудзіў яго яму капаць. Закончылі яны работу, янот работніка морквай пачаставаў і гаворыць яму:

— Заставайся, зай, у мяне жыць. Удвух яно весялей будзе.

— Не, янот,— адказаў зайка.— Даведаўся я цяпер пра залатое правіла і рашыў да маці з братам вярнуцца. Мілы той куток, дзе рэзалі пупок. А ў чужым баку, як на пагарэллі.

Сказаў так зайка, развітаўся з янотам і паскакаў дамоў.

**РАЗМАЛЮЙ, КАЛІ ЛАСКА!**

Малюнак Алены ВАШЧАНКІ.



# Сонейка

**Васіль ЗУЁНАК**

### *Слімакі*

*Слімак слімаку*
*Працягнуў руку:*
*— Здарова, слімак,*
*Дзе жывеш і як?*

*— Жыву на лістку,*
*Ды больш не магу,—*
*Слімак слімаку*
*Працягнуў нагу.—*
*Абрыдла сядзець*
*На тым пятачку,*
*Пара паглядзець*
*На свет слімаку.*
*Прыйшоў развітацца...—*

*Слімак слімаку —*
*Той цісне нагу,*
*Той цісне руку...*

*А я разабрацца*
*Ніяк не магу:*
*А што ў слімака —*
*Ці нага,*
*Ці рука?..*

**Сяргей ПАПАР**

### *Рамонак-ветрачок*

*Закружыўся мой*
*рамонак-ветрачок:*
*Намалоць мукі*
*Прыехаў Светлячок.*
*Незвычайнае тут меліва*
*ідзе,*

*Бо такой мукі*
*не стрэнеш анідзе.*
*Завіхаюцца*
*пялёсткі*
*ветрака.*
*Залацістая*
*пытлюецца*
*мука.*
*Мукамолы запудрыліся*
*да шчок!*
*Вось чаму*
*Начамі свеціць Светлячок.*

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

### *АМОНІМЫ*

**Дарогу ў поле**
**Акружае плот,**
**Каб не магла**
**Жывёліна ўцячы.**
**І знак, што маюць**
**Армія і Флот,**
**Які ў салдата**
**І матроса на плячы.**

(пагон)



**Гэта**
**Прыбаўка да вагі,**
**Калі**
**Пякуцца пірагі.**
**І кожны**
**Сонечны зацішак,**
**Дзе плачуць**
**Першымі снягі.**

(прыпёк)



**Расцэнка паслуг**
**І тавараў,**
**Аднак**
**Яна гэтаксама**
**Парода сабак.**

(такса)

### СКОРАГАВОРКІ

**— Пойдзем з намі,—**
**Звалі Фрузу,—**
**Пацярэбім кукурузу,**
**Церабілі кукурузу,**
**Нарабілі**
**Многа друзу.**
**Доўга яе церабілі,**
**Покуль перацерабілі.**

**Расказалі ўчора**
**Пра Жорава гора.**
**Жораў здобу любіў,**
**Жораў жорны набыў:**
**— Зерня прывязу мяшкі,**
**Ўдосталь намялю мукі.**
**Пачну здобу выпякаць**
**І маленькіх частаваць.**
**Забывака Жораў быў,**
**Недзе жорны ён забыў.**

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

### *Пушок-лапушок*

*Хоць блішчаць гарэзна*
*вочы,*
*Ды не радасна Пушку:*
*Не пагойсаеш, дзе хочаш,*
*У патлатым кажушку.*

*Уздыхае часта ў скрусе:*
*Кажушок не зняць —*
*Прырос.*
*Бы карычневенькі гузік,*
*Мокры ў ім схаваўся*
*Нос.*

*Кожны лопух голькі*
*шчэрыць,*
*Па яго бяжыць слядах:*
*Белы быў —*
*Зрабіўся шэрым,*
*Нават вушы —*
*У дзядах.*

*У такой апратцы «моднай»*
*Зазірнуць баіцца ў дом.*
*Ён абстрыгчыся ўжо*
*згодны:*
*Быў Пушком —*
*Стаў Лапушком.*



Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

### ЗАГАДКА

**Працавіта загулі**
**Пчолкі**
**Ранкам у вуллі.**
**Яны ўчора**
**У калоду**
**Нанасілі**
**Мала мёду.**
**Лезуць па чарзе**
**З-пад леткі,**
**Каб шукаць**
**Навокал кветкі.**
**Пяць — налева,**
**Шэсць — направа,**
**Добра ім —**
**Вядома справа.**
**Знойдуць кветкі —**
**За сабой**
**Прывядуць**
**па ношку рой.**
**Колькі**
**Ўвішных пчол**
**Праз летку**
**Рой адправіў**
**У разведку!**

(адзінаццаць)



# "Многа душэўных сяброў маеце..."






Часцей за ўсё бывае так: пра творцаў згадваюць тады, калі наступаюць чарговыя пасмяротныя юбілейныя даты. А яшчэ трэба, каб пашчасціла, што не прамінуць згадаць іх нашчадкі, а новы ідэалагічны рэжым не зашорыць і не ўцісне ў цуглі рухлівага каняку гісторыі.

Як для Міхала Забэйды-Суміцкага, то нагодаў для прыпамінку аб ім сёлета — удосталь. Хоць і не з энцыклапедый, але вядома, што нарадзіўся ён каля Ружанаў на Брэстчыне 95 гадоў назад — 1(14) чэрвеня ад бацькоў Івана Андрэевіча Забэйды з вёскі Несцяровічы і маці Аляксандры Феліксаўны Суміцкай з вёскі Шэйпічы.

Забэйду-Суміцкага напаткаў лёс пакутніка-паязджаніна. Яго жыццёвы шлях — рэдкі па сваёй вірлівасці і пакручастасці. 80 гадоў назад, з класаў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, пачалася для яго гаротная дарога бежанства на Смаленск, Тамбоў, Пензу, Усць-Калманскае каля Барнаула... Потым быў Харбін і — нарэшце — ратоўны Мілан, сцэна знакамітага тэатра Ла Скала. Мінае роўна 60 гадоў, як прызнанаму тэнару далі дазвол на ўезд у Польшчу. Прычакалася вяртан-

не на родны парог пасля амаль што кругасветнага падарожжа.

І зноў — знамянальная дата: у 1940 годзе з пекла Варшавы М. Забэйда-Суміцкі трапляе ў Прагу Чэшскую. Потым будуць Вільня, Беласток, Рыга, Ваўкавыск, Гародня, Віцебск, Слонім, Мінск, Ліда, Баранавічы, Магілёў, Гомель... Але Злата Прага да канца яго дзён стала для творцы адзінай музай-ахоўніцай. Яна і прыняла спевака-эмігранта на вечны спачын.

25 гадоў прамінула, як я наведаў невялічкі яго пакойчык у доме на вуліцы Польскай, каля аднаго з найпрыгажэйшых у Празе паркаў — Рэгравага саду. На працягу чатырох гадоў (пакуль служыў вайсковым журналістам у Цэнтральнай групе войскаў) часта сустракаўся з ім. Дзядзька Міхал стаў нібы родным мне чалавекам. Ён дазволіў працаваць з яго архівам. Чытаючы дарчыя надпісы і самі кнігі з Беларусі, лісты, адрасаваныя Забэйду-Суміцкаму, я далучаўся да літаратурных працэсаў Бацькаўшчыны, да дыхання культурнага мацерыка... Не забыць тыя ўзбагачальныя часіны!

З дазволу дзядзькі Міхала я перапісваў матэрыялы архіва, каб выкарыстаць іх для напісання біяграфіі маэстра. У 1974 годзе, калі армейскія асабісты рыхтавалі на мяне кампрамат для выключэння з партыі («за связь с националистическими деятелями, пропаганду их в печати, потерю классовой бдительности...»), некалькі папак знікла з кватэры, але тое-сёе засталося, і мне хацелася б пераказаць некаторыя радкі з забэйдавага архіва. «29 ліпеня 1962 года, Мінск. Дарагі Міхаіл Іванавіч! ...На днях я і акадэмік Глебка гутарылі з міністрам культуры, каб запрасіць Вас у Мінск на гастролі. Поўная згода. Але гэта, відаць, пачне рухацца не раней як праз месяц.

14-га, у дзень Вашага нараджэння, я прачытаў аб Вас лекцыю ў Акадэміі навук для маладых аспірантаў і супрацоўнікаў Інстытута літаратуры... Былі ілюстрацыі Вашых спеваў. Уражанне незвычайнае. Тут жа пайшлі віншавальныя тэлеграмы. Многа душэўных сябраў маеце сярод нашае моладзі. Гэта мяне вельмі радуе.

Нарыхтаваў аб Вас артыкул для «Звязды». Калі надрукуюць, прышлю.

Часта, часта ўспамінаю пра Вас, хочацца пагутарыць і цвяроза аб усім расказаць...

З прыветам і любоўю шчыра Ваш Р. Шырма».

На адвароце фотаздымка, дзе зазнятыя Максім Танк, Я. Брыль, Л. Александроўская, Я. Семяжон, Міхал Забэйда-Суміцкі, П. Панчанка, Я. Скрыган, І. Цішчанка (падчас гастроляў спевака ў Мінску), я прачытаў такі надпіс: «Дарагі і паважаны Міхась Іванавіч! Мы, студэнты БДУ імя У. І. Леніна і ўся моладзь зямлі беларускай, выказваем Вам сардэчнае дзякуй за тыя незабыўныя дні, калі мы чулі Ваш цудоўны голас, бачылі Вас на сваёй роднай бацькаўшчыне!!! Гэтыя хвалюючыя хвіліны сустрэчы мы захаваем у сваім сэрцы на ўсё жыццё і будзем расказваць аб іх сваім дзецям, як аб найдаражэйшым падарунку.

Ад душы жадаем Вам доўгіх гадоў жыцця і вялікага шчасця!

Мінск, 15 мая, першы канцэрт. Мікола Пашкевіч, Вячаслаў Рагойша, Леанід Акаловіч».

Яшчэ з віленскага часу сябруюць Міхал Іванавіч і Яўген Іванавіч — Максім Танк. Можна знайсці ў друку і цікавыя ўспаміны і вершы, прысвечаныя Максімам Танкам свайму даўняму сябру. А вось некалькі пісем, адрасаваных у Прагу.

*«Дарагі Міхале!*

*Апошнія два месяцы быў у дарозе. Толькі што вярнуўся з Польшчы. Шкада, што мы размінуліся. З газет і ад сяброў чуў аб Тваіх трыумфальных гастролях, аб сардэчных сустрэчах на Беласточчыне, аб шчасці і радасці людзей, якія бачылі Цябе і чулі Тваю песню. Вялікую Ты справу зрабіў, пабываўшы ў сваіх землякоў. Рэха Тваіх песень будзе ўсё жыццё звінець у іх сэрцах, весці іх праз усе нягоды і выпрабаванні. Меўся і я з Янкам Брылём сустрэцца з беларускай калоніяй у Варшаве, але столькі было розных канферэнцый, што не было вольнай хвіліны, а пад канец і мы прыхварэлі, і змушаны былі скараціць свае гастролі і вярнуцца дамоў. Зараз глытаю розныя пілюлі, чакаю, калі спадзе тэмпература.*

*Моцна Цябе абдымаю. Жадаю шмат здароўя, шчасця. Прывітанне Табе ад усёй маёй сям'і.*

*Максім ТАНК.*

Мінск, 18.III.65 г.

*«Дарагі Міхале! Спазненне стала другой маёй, пасля сэрца, хваробай. Таму прашу даравацъ за мой позні адказ. Гаварыў я з людзьмі некаторымі аб той справе, якую Ты закрануў у пісьме, але яшчэ не знаю, які будзе вынік. А справа важная, каб толькі ўдалося яе ажыццявіць. Палохае мяне Твой мінорны настрой, які прарываецца паміж радкоў Твайго пісьма. Як са здароўем? Янка Брыль казаў, што атрымаў Тваё пісьмо. Зараз «Полымя» будзем Табе пасылаць праз Саюз пісьменнікаў. Часопіс стаў больш салідны. Ты, здаецца, першы нумар ужо атрымаў. Зрабіў я недаравальнае глупства, што развітаўся з часопісам і пайшоў на работу ў сакратарыят нашага Саюза пісьменнікаў. Зараз капаюся ў розных канфліктах і не патрэбных нікому справах, закінуўшы сваю творчасць. Праўду казала народная мудрасць: век вучышся...*

*Максім ТАНК.*

Мінск, 18.ІІ.67 г.»

Кожны, хто чуў песню ў выкананні Забэйды, будзе доўга насіць яе ў сваім сэрцы. «Ужо амаль тыдзень, як мы з Вамі развіталіся,— пісаў у свой час у Прагу навуковец з Мінска Янка Саламевіч.— А ў памяці і ў сэрцы жыве радасны ўспамін аб такой цудоўнай сустрэчы: у сэрца стукае наша родная песня. Так закранула людзей на першы погляд вельмі просценькая «Калыханка». Абедзве «Калыханкі» — гэта цуд, жамчужыны сусветнай песеннай творчасці. А «Ціха, так ціха» на танкаўскія словы! Колькі ў гэтай рэчы драматызму, трагічнай глыбіні, эмацыянальнага напружання. Любы славуты кампазітар быў бы шчаслівы, стварыўшы нешта падобнае...»

Такая глыбокая пашана многіх людзей да беларускага спевака была выказана яшчэ пры яго жыцці. І гэта не даніна яго славе. У кнізе «Пра час і пра сябе» ёсць такія радкі Алеся Бажко з яго ўспамінаў аб 30-х гадах: «У Варшаве маімі настаўнікамі былі вельмі ўдумлівыя і разумныя педагогі — віцэ-рэктар кансерваторыі вядомы польскі кампазітар Станіслаў Казура, беларускі спявак Міхал Забэйда-Суміцкі... Асабліва шмат зрабіў для мяне Міхал Забэйда-Суміцкі...»

Гэта ён дапамог Алесю Бажко ўладкавацца ў Варшаўскую кансерваторыю, дзе да хлопца з Навагрудчыны вучыўся толькі адзін беларус.

Сам у душы паэт (між іншым, у Забэйды захаваліся напісаныя па-руску падчас студэнцкіх гадоў вершы), ён вельмі паэтычна ўспрымаў прыроду і людзей. Жыў ля Рэгравага саду — маляўнічага ўзгоркавага парку ў пражскім раёне «Вінаграды», часта ўспамінаў яго ў сваіх лістах: «Гэты парк з'яўляецца прадаўжэннем маёй вельмі сціплае кватэры. У парку не раз вывучаў тэксты новых песень, слухаў спевы птушак, любаваўся шчырымі дзіцячымі вачанятамі, якія лечаць душу, збаўляюць ад смутку і ўліваюць надзею ў лепшае жыццё чалавецтва. Цяпер гэты сад ажывае ад доўгага зімняга сну. Пачынаюць цвісці магноліі. Распусцілі свае жаўтавата-зялёныя косы вербы. Рыхтуюцца да вясенняга свята сакуры... Прыраў сад варты добрага верша: ён не толькі чаруе сваёй прыгажосцю, але дапамагае здароўю ўсім, хто сюды прыходзіць...»

І быццам бачыцца мне на даляглядзе Прагі знаёмая постаць дзядзькі Міхала. Так калісьці і Скарыну назаўсёды прываблівалі гэты чароўны горад.

І калі я атрымліваў у Мінску ліст ад дзядзькі Міхала, здавалася, што, чытаючы Забэйдавы радкі, бачу і гэты сад, і чую голас — такі лагодны, прыветны, ухвечаны водарным кветам несцяровіцкіх пожняў...

«Даражэнькія Жэня, Сяргей,



Андрэйка! Пасылаю вам шчырыя прывітанні з Лугачовіц, дзе лячуся... Адным словам, раблю ўсё, каб акрыяць, але часам здаецца, што прыйшоў мой канец, хоць я і брыкаюся. У Прагу вярнуся 31 ліпеня. Тут вельмы прыгожа. Часта вас успамінаю. Калі маеце час, напішыце. Будзьце здаровы і шчаслівы. Мо ўбачыце Караткевіча і Жыдліцкага, перадайце ім прывітанні і скажыце, што вельмі шкадую, што не спаткаліся. Кніжку іх чытаў з захапленнем. Абдымаю. Ваш дзядзька Міхал. 17.7.73.»

«Прага, 13.2.74. Дарагі сябра Сяргей! Віншую з уладкаваннем кватэры. Якое вялікае значанне гэта мае ў жыцці чалавека, добра ведаю, бо сам дагэтуль жыву як кватарант, што перашкаджае і ў працы і ў адпачынку. Ды і маральна прыніжае чалавека...

Пару слоў пра Б. Сметану. Адкуль любоў да яго? Ён з'яўляецца тварцом чэшскае народнае музыкі. Параўнаць яго можна з М. І. Глінкам, які з'яўляецца тварцом рускае народнае музыкі.

Я, як ведаеш, не музыколаг, а пявец. І кіруюся пачуццямі, а не тэарэтычным разборам твораў. Разбор і патрэбныя табе факты знойдзеш у музычным слоўніку, які напэўна мае мінская бібліятэка. Я табе перакажу змест песні, што спяваў на першым пражскім канцэрце ў 1940 г.: «Хто на залатых струнах зайграць умее, яго шануйце больш чым сябе; бо вас так Бог палюбіў, што паслаў вам яго з неба. Страшна, калі Бог неўраджаем ці вымаракам карае. Але найбольшае пакаранне, калі народ не мае песні. Той народ яшчэ не загінуў, пакуль яму вяшчун спявае; бо песня ў небе народжана — і ў смерць жыццё ўлівае».

Калі ўсвядоміш сабе, што Чэхаславаччына тады была акупіравана немцамі, ты зразумееш, што значыла ў той час заспяваць апошнія радкі песні. І слухачы перапоўненай Залы Сметаны зразумелі і дамагаліся паўтору... А мяне потым клікалі на гестапа.

Вельмі цікавая і другая песня з таго ж цыкла «Večerní písně» на словы Віцеслава Галка, якая канчаецца словамі «...сэрца спевака чыстае (цнатлівае) і гневу не мае; а што ён вам праспяваў ад сэрца, тое ў сваім сэрцы насіць».

Як бачыш, змест песень мне блізкі, глыбокі, а мелодыя мае моцартаўскую прастату і лёгка слухаецца.

Большасць непанямечанае інтэлігенцыі таго часу (даты жыцця Б. Сметаны: 1824—1884) з надзеяй глядзела на Усход (на Расію). Думаю, што і Сметана як будзіцель быў славянафілам. А. Дворжак, другі вялікі кампазітар чэшскі, быў другам П. Чайкоўскага, які прыязджаў у Прагу на прэм'еру «Яўгенія Анегіна».

Калісьці мне падарылі пра Сметану кнігу Зд. Нэедлэга. Хацеў табе кнігу паслаць. Але цяпер мне нешта ў сябе знайсці яшчэ трудней, чым было раней. Шукай у бібліятэцы.

Адчуваю сябе вельмі пагана. Прычапіўся грып... «І ветразь дагарае за спіной». Хаджу як п'яны, але «жыць яшчэ хачу». Калі буду жыць, буду спяваць 16.III. на Шаўчэнкаўскім вечары.

Шчырыя прывітанні супольным знаёмым. Не забывайце! Моцна абдымаю і цалую... Ваш М. Забэйда.

P. S. Памёр Янка Шутовіч. Шкада».

«Не забывайце!» Гэты кліч дзядзька Міхал дасылаў на Бацькаўшчыну ў кожным сваім лісце. Учытваюся ў паштоўку, атрыманую 20 гадоў назад. 13 красавіка 1975 года ён пісаў: «Дарагія Панізнікі! Я вам паслаў пісьмо 23.III.75 г. Думаю, што атрымалі. За гэты час спяваў у Празе — Шастаковіча, Чайкоўскага і нашу «Калыханку». Атрымаў нават пісьмовую падзяку. Гатоўлюся да далейшых выступленняў, але маё сэрца вельмі дакучае. Як доўга вытрымае, не ведаю. Я вельмі рады, што вам добра творча працуецца, і ўдзячны, што не забываеце дзядзьку Міхася. Часта пра вас думаю і жадаю вам многа творчых поспехаў і шчасця! Якую песню гралі ў тэлевізіі? Ці Валянціна Аркадзеўна не дачка А. Куляшова, якога вельмі люблю чытаць? Усім вам нізка кланяюся і шлю вясновыя прывітанні.

Не забывайце! Ваш з любоўю М. Забэйда».

Не забываем... Толькі хіба што любові не ва ўсіх хапае для паўсядзённай прысутнасці Міхала Іванавіча Забэйды-Суміцкага на мацерыку нашае культуры. Ці мо чакаць 100-годдзя, каб яго творчая спадчына навекі ўкаранілася на гэтым самым мацерыку? Як цяжка-грузна сыходзіць з яго ледавік абарыгеннай тутэйшасці...

Не забудзем, дзядзька Міхал! І зазвініць срэбра-звонка чулая і натхнёная струна беларускасці, і вяшчун заспявае...

**У доўгім выраю, сумным выраю**
**толькі песня і можа вырвацца,**
**ўпасці, высмяглая без рос,**
**ў несцяровіцкі сенакос.**

**І на ростані, сумнай ростані**
**толькі песня адчуе вёрстамі**
**шлях да роднай сваёй зямлі,**
**дзе гняздуюцца жураўлі.**

**Песня просіцца**
**(й сёння просіцца!)**
**з-пад сіроцкае пражскай**
**просіні**
**пераплыць на курган-гару —**
**у зялёную Беларусь.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**
**Фота аўтара.**

# І смешна і грэшна

## Некананізаваныя ўспаміны Рыгора Барадуліна

# Смяяўся, язык прыкусіўшы

Усеімперская катоўня дужа не перабірала, не выбірала — душыла ўсіх, хто трапляў у яе. Цяжка й несумленна судзіць тых, хто зламаўся. Вядома, ламаліся й вязні Гулагаў. Ёсць старадаўні спосаб, які прымяняюць каты. Гэта нейкім чынам самаабслуга. Зэкі сочаць за зэкамі, даносяць адзін на аднаго. Даслужваюцца да начальнінаў кандзеяў лагерныя капо, кумы. Тыя, хто выжылі за кошт сваіх жа братоў, атрымаўшы волю пасля смерці Сталіна, яшчэ старанней за непасаджаных, дзівам ацалелых славяць партыю, усё, што звязана з імем Леніна й яговых сатрапнікаў. Потым атрымліваюць дазвол ад гаспадароў з масавай масонскай арганізацыі называць сябе ахвярамі й крытыкаваць лагернае начальства, сабепадобных сексотаў, адчуваючы хутчэй скурай, чым душой (яе няма, яе прадалі даўно й дужа танна без уліку інфляцыі) трапятанне перад сістэмай, якая задумана на доўгія гады. Калі б такія ахвяры паведалі ўсё без утойвання, ім бы веры. Бо яны ахвяры, яны пакутнікі. Ужо трапіць толькі за калючы дрот, пад крысо сібірскіх сураве́яў — гэта страх і найвысокая кара. Але, відаць, страх вышэй за чалавека, асабліва якога зламалі.

Хапіла аднак мужнасці протаіерэю Гаўрыілу Туманаву ў накідах свайго жыццяпісу, надрукаваных у часопісе «Полымя» ў першым нумары 1994 года, прызнацца: «Пры садзейнічанні ўпаўнаважанага па справах царквы я быў прыцягнуты да супрацоўніцтва з органамі дзяржаўнай бяспекі. З гэтай новай работай я спраўляўся здавальняюча. Але ўзнікалі і цяжкасці...» Ад гэтага вобраз пакутніка рэжыму не прынізіўся й не ачарніўся. Наадварот, д'ябальская сіла камуністычнай практыкі яшчэ болей падкрэслена. Вядома, высокія іерархі царквы не прызналіся дый не прызнаюцца. Можа перад самім Госпадам насмеляцца.

Невыпадкова дзівіўся Васіль Быкаў. У адным выступленні ён сказаў, наўмысна гіпербалізуючы, што кожны другі ў Саюзе пісьменнікаў супрацоўнічаў з органамі. І думаў, што будуць выклікаць на дуэль, зацягаюць па судах. Цішыня. Ці нацыянальная лянота і прынцып, які гумарысты прыпісвалі Броўку: «За што нас беларусаў любяць, цэняць і паважаюць? За тое, што мы нідзе ніколі нікому нічога, мы ніколі супраць, мы заўсёды за»; ці па Бібліі: хай той кіне камень...

Не выступаю ў ролі суддзі. Бо змалку памятаю: не будзь ні войтам, ні сватам, не будзеш чалавекам праклятым. І права такога не маю павучаць ці папракаць. Проста прыгадаў некаторых па кантрасту з дарагім мне чалавекам і паэтам Міколам Хведаровічам. Ён тлумачыў, як выжыў. Перад пасадкай якраз прачытаў «Прыгоды бравага салдата Швэйка». І працаваў пад любімага героя Уладзіміра Караткевіча. Так і ўратаваўся. Ды не трэба думаць, што Хведаровіч толькі капіраваў Швэйка. Па сваёй прыродзе ён быў чалавекам іранічным, з чыста беларускім адчуваннем і разуменнем гумару, чалавекам вострым на язык, дасціпным і ўмеру хітраватым. Пра такіх у нас гаварылі — пратарэка.

Ужо, можна сказаць у пекла спускаючыся, жартаваў са смерцю. Калі Хведаровічу сказалі напісаць саўдзельнікаў антысавецкай арганізацыі, за ўдзел у якой забралі паэта, ён пералічыў кіраўнікоў кампартыі Грузіі на чале з Лаўрэнціем Берыем. Бо была паездка групы беларускіх пісьменнікаў у Грузію. Група складалася з трох чалавек — магічная ў гады бальшавізму тройка, зусім далёкая ад гогалеўскай. Віталь Вольскі-Зэйдаль, пільны памежнік, Эдуард Самуйлёнак, якому колькідзённага матэрыялу хапіла на раман, што ўпёрлі ў хрэстаматыі, й перакладчык Шата Руставелі Мікола Хведаровіч. І гадоў праз пяць, на незлічоным этапе, успамінаў потым смелы жартаўнік, выклікалі яго, каб сурова пагаварыць, бо нарэшце нехта прачытаў паказанні, занесеныя ў пратакол. Жарт мог каштаваць дужа дорага.

І ў сваёй паўночнай нізцы вершаў Мікола Хведаровіч ухітрыўся сказаць шмат і пра самае страшнае. Гэта тады, калі нельга было. Бо аднойчы выклікалі выпушчаных на абмежава-

ную волю вязняў гулагаў і сказалі, каб трымалі язык за зубамі, бо адрас сталага месцажыхарства можа быць ранейшы. І царская й савецкая імперыі мелі прастору, куды можна было выслаць усіх вальнадумцаў з паловы зямнога абшару. Ды паэт пісаў:

Сотню пар пасталоў знасіўшы,
На ухабах жыццёвых дарог
Я смяяўся, язык прыкусіўшы.

Але слаба прыкусваў сабе язык. Да слова, дужа ж шумна рэагавала застолле ў Вільнюсе, калі Мікола Хведаровіч напомніў, што Вільня й беларуская старажытная сталіца. Ледзь без носа не застаўся беларускі паэт. Літоўскі брат па пяру спосабам помсты, які быў вядомы яшчэ ў паганскія часіны, хацеў прымусіць замаўчаць паплечніка па сяброўскай вячэры.

І зноў жа ў Вільнюсе не на паўгубы смяяўся Мікола Хведаровіч, расказваючы пра свой Капыль, пра паслярэвалюцыю, пра літаратурнае жыццё Менска трыццатых гадоў. Мы ўтрох, Мікола Хведаровіч, Уладзіслаў Нядзедскі й я, так актыўна секлі вінаградную лазу, што напрыканцы бяседы панеслі здарожанага Міколу Хведаровіча ў ягоны нумар гатэля. Раніцой наш старэйшы сябра не з вячэрняй весялосцю казаў, як прачнуўся ён, зірнуў на столь, на сцены й разгубіўся. Дзе гэта ён? Калі на чарговым этапе, дык занадта ж шыкоўная камера... Страх раўніва сачыў за вясёлай натурай. Напамінаў пра сябе...

Мікола Хведаровіч не кінуўся навыперадкі з маладымі бядой няскубленымі пеўнікамі апяваць новабудоўлі з іх парторгамі й кранаўшчыцамі, бо на самай галоўнай будоўлі светлага будучага адбарабаніў каля дваццаці гадоў. Ён напісаў, як гнаў плыты па Енісеі, як «на злосці сабачай» ляцеў па ледзяной магільні. Думаю, што аднагодкаў, якія выслужылі сабе на волі, хоць і на ланцугу, лаўрэацкія медалі з вусатым профілем, утульныя пасады й агародзістыя дачы, праймала холадам ад хведаровічаўскіх вершаў. Прынамсі, мусіла праняць. Гэта толькі на першы позірк Галоўліта верш быў пра бушлат. Гэта пра сябе, пра аднапакутнікаў, пра паэта выгнанца наогул. Футэркі й макінтошы — тыя, з кім пачынаў паэт, але яны сталі на дыбачкі й са стала рэжыму ўхапілі кусанікі й крошкі, выйшаўшы ў адказнапасаднікі, акадэмікі, віцэ-прэзідэнты акадэміі.

**Пасцелаю быў ён у палатках,**
**Абагравaў марознай ноччу.**
**І хоць цяпер на латцы латка,**
**Шаную свой бушлат рабочы.**
**Сярод футэркаў, макінтошаў**
**Няма яму надзейнай пары.**
**Яго і колер нехарошы —**
**Ён сярод іх, як воўк паджары.**
**Сыноў, нявестак поўна хата,**
**І ўсе ганяюцца за модай.**
**Няма сяброў майму бушлату,**
**А мне яго, як друга, шкода.**

Бывала, вёў гульню хіба там, дзе не трэба было прыніжацца, крывіць душой. Захацеў, каб Хведаровіч сказаў сваё слова пра яго, быццам таксама рэпрэсаваны (але ў вайну працаваў у ваеннай камендатуры ў Маскве, у Заходні Берлін ездзіў нібыта як спецыяліст па кнігах). І Мікола Хведаровіч болей казаў пра «Маладняк», пра Менск нэпманаўскі, а мне ў перапынку перад запісам кінуў два словы: «страшны чалавек».

Невясёла апавядалася чалавеку з гумарам, кепліваму субяседніку пра сумнае. Жонка ягоная ляжала ў бальніцы. І раптам з рукамі растапыранымі ад гасцінцаў і кветак у палату ўкаціліся жонкі жывых класікаў, стырнавых роднай літаратуры. Хведаровічыха ледзь стрымала слёзы расчулення. Аж стырнавіхі й не заўважылі яе. Яны неслі дары ад літаратуры жонцы дырэктара выдавецтва, галоўнага героя літаратурных анекдотаў. А Сара Майсееўна паехала да мужа ў выгнанне, як дзекабрыстка. Была са сваім Міколам да вызвалення. Паліла печкі ў школе, мыла падлогі там, у Сібіры, жонка Калініна. Усесаюзны староста да жонкі не паехаў, як дзекабрыст. Не меў часу, бо трэба ж было піць гарбатку з хадакамі.

Страх хутчэй руплівая абачлівасць жылі ў паэце. Як другая натура, прыдбаная прымусова. Рэдагаваў я зборнічак Міколы Хведаровіча па серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі». Нармальны верш пра рачулку. Але слупкі тры былі пра тое, як вырасце электрастанцыя, як будзе даваць яна святло ледзь не камунізму. Ну, вядома, зняў я гэтую лірыку, прызначаную на закусь Галоўліту. Прыносіць паэт карэктуру, аднавіў усе слупкі. Кажу, што перавёрстка, што кніжка затрымаецца, аўтар стаіць на сваім, толькі паўтарае: «Грышка, не лезь у бутэльку».

А, дарэчы, за бутэлькай сядзець з Міколам Хведаровічам было й прыемна й цікава. Любіў узяць чарку, любіў пачаставаць. З паездкі ў Венгрыю прывёз параду, што «Бікавер» (Бычыную кроў) трэба піць пад сакавітае мяса. Ездзіў у Венгрыю Мікола Хведаровіч як перакладчык Шандара Пэтэфі. Акрамя парады, як піць «Бікавер», прывёз ён яшчэ й напісанне вялікага венгра як Пецёфі. Колькі пасля ні ўдакладняў я пры магчымасці ў венгерскіх пісьменнікаў, як вымаўляецца прозвішча нацыянальнага паэта, ніколі не пачуў і нечага прыблізнага да Пецёфі. Але не гэта галоўнае. Галоўнае, каб чалавек быў добры, як кажуць часта.

А чалавекам Мікола Хведаровіч быў добрым. Як і Станіслаў Шушкевіч, помніў сяброў сваіх, што сталі ахвярамі ідэі, якую яны шчыра ўслаўлялі. Няхай сабе гуляла фантазія ва ўспамінах, але яны пісаліся ад душы. Хадзіў нават жарт, што ў Міколы Хведаровіча як не на ўсіх вядомых жывых маюцца ўспаміны й толькі свайго часу чакаюць. Пісаў і я паэту:

**Пад класікаў падкласці**
**б міны —**
**І ўвесь апошні клопат з рук.**
**Даўно гатовыя ўспаміны**
**Я ў той бы дзень аддаў**
**у друк.**

Калі выйшаў «Віцязь у тыгравай шкуры» ў перакладзе Алеся Звонака й Міколы Хведаровіча, мы, тады маладыя й, калі бывала за што, вясёлыя, крыху іначылі Крылова: «Чему обрадовался сдуру, знай, Коля, всю испортил шкуру».

Сябра жарту, Мікола Хведаровіч, крыху скасіўшы й адвесіўшы губу, сам стоячы перад апошнім парогам, спачуваў: «Як уявіць Броўка, што ён бронзавы будзе стаяць на холадзе, дык з галавой пад коўдру лезе».

Сябе Мікола Хведаровіч, накалеўшыся на сібірскіх маразах, грэў жартам. Каб забыцца.

І свае кузлакаватыя ўспаміны хачу закончыць вершам у гонар і памяць іранічна лірычнага паэта.

**Адной да скону верыў**
**ісціне —**
**Не паддавацца злой бядзе.**
**І не пятляў кружнымі**
**выйсцямі,**
**А кій дадому прывядзе.**

**Рукамі шчырасць жару выверыў,**
**Пачуў глухую скаргу дрэў,**
**І верш,**
**Што з ім асіп на сіверы,**
**За пазухай, як пеўня, грэў.**
**Не затрымаліся гадоў плыты,**
**І засталіся там, дзе**
**скруха ные,**
**У саркафагах вечнай мерзлаты**
**Яго сябры навечна маладыя.**
**Верш паляцеў шляхамі выраяў,**
**Вярнуўшыся пад родны дах.**
**Хоць посах свой**
**Вандроўнік выраніў,**
**Вясёла здарожаны,**
**Чытае памяць па складах:**
**Мі-ко-ла Хве-да-ро-віч.**

# Юрка Гаўрук

У Каралішчавічах у зажуранагарэзлівым настроі перадаваў мне ў галасах вандроўны сюжэт на фені знаўца англійскай, французскай, нямецкай і іншых моваў, перакладчык, інтэлігент і вонкава й душэўна, выкшталцоны Юрка Гаўрук. Гэта любімага вучня Брусава Юрыя Паўлавіча Гаўрука як наццэма паслалі на сібірска-таежныя курсы, каб удасканаліць на працягу дваццаці з гакам гадоў свае веды ў расійскай мове. «Великий и могучий» гучаў з вуснаў сапраўдных арыстакратаў, з вуснаў канвою, з вуснаў крымінальнікаў, якіх спецыяльна садзілі разам з ненавіснай «самаму чалавечнаму чалавеку» інтэлігенцыяй, каб дэмаралізаваць. Каб зламаць дух непакоры.

У Каралішчавічах таксама расказваў Юры Паўлавіч, як хадзіў да Якуба Коласа пад час кароткага наведвання Беларусі перад чарговай пасадкай. Прасіў Якуба Коласа паспрыяць выданню драмы Шэкспіра, якую пераклаў ён, Юрка Гаўрук. Якуб Колас кепска сябе пачуваў. Размова была шчырая. Але калі зайшоў прыстаўлены да народнага паэта сакратар, якога некалі Мікола Хведаровіч называў пасцельнічым, што мулка слаў, Якуб Колас вачыма паказаў Гаўруку перавесці тэму размовы. Не давяраў, значыць. Ведаў, хто паслаў сакратара.

Тады ж расказваў Юры Паўлавіч пра дужа дарагі касцюм, які ён справіў перад пасадкай. Меў густ. Любіў добрыя рэчы. Нават успамін пра іх.

Падараваў мне кнігу А. Маруа «Падарожжа ў нябыт і яшчэ 24 навелы» ў сваім перакладзе. Дасюль у мяне ў душы цёпла і ўтульна ад навел Маруа, якія мякка й годна гучалі па-гаўрукоўску.

Дужа захапляўся Юры Паўлавіч халодным Брусавым, Левікам, у чыіх перакладах уся класіка гучала аднолькава.

З падазронай патрабавальнасцю ставіўся да перакладчыкаў, асабліва маладых. Памятаю, як колькі гадзін даводзіў мне, што Васіль Сёмуха не справіцца з перакладам «Фаўста». Калі меў намер (а тады меў я й сілы болей і яшчэ свежа гучала англійская мова) перакласці ўсяго «Чайльд Гарольда» Юры Паўлавіч суха запытаўся: «Вам гэтак трэба грошы?» І адразу ахаладзіў. Пераклаў я толькі часткі з Першай песні «Паломніцтва». Можа ў гэтай суровай патрабавальнасці й была свая праўда. І ў галаву прыходзіць яўрэйская прыпавесць. Трэба было абрабіць неацэнны дыямент. Ніводзін майстра не браўся. Узяўся й абрабіў дыямент малавядомы майстра. І аддае ўладальніку. Той пытаецца, а ці ведаў майстра пра кошт гэтага дыямента. На што майстра спакойна адказаў, што ён дык ведаў, а вось чаляднік не ведаў сапраўднага кошту дыямента. Гэтак, відаць, было і з Юркам Гаўруком, які ведаў цану дыяментам сусветнае паэзіі, а чаляднікам не давяраў.

Лічыў Юры Паўлавіч, што ніхто не можа перакласці Сяргея Ясеніна. У нас з ім адбылася ледзь не спрэчка.

Ніяк не мог пагадзіцца з перакладам Аркадзя Куляшова: «Я адзін выходжу на дарогу». Чаму **Я** наперадзе, а ў Лермантава не з **я** пачынаецца.

Відаць, вучыць можна не столькі хвальбой, колькі крытыкай. Бо сапраўдная ласка звычайна з суровым тварам.

Даір СЛАЎКОВІЧ

# Дзякуй, доктар!

**АПАВЯДАННЕ**



Здарылася так, што я прыхварэў.

Жонка памацала мой гарачы лоб і хацела тут жа выклікаць урача дамоў, але я адмоўна пакруціў галавою. Апрануўся і, абапіраючыся на кіёк, пайшоў у паліклініку.

Дзіўная рэч! Увесь час думаў, што большасць людзей бегае па магазінах, ездзіць за мяжу, нешта прадае ў кааператыўных кіёсках, спяшаецца некуды ў электрычках і аўтобусах, стаіць у чарзе па гарэлку. Аднак аказалася, што ў паліклініцы таксама чарга.

Прыйшлося мне яе выстаяць, каб атрымаць талончык да доктара Збанкова. Адшукаў патрэбны кабінет і заняў там таксама чаргу.

Уздоўж сцен шырокага калідора стаялі новенькія, абцягнутыя чорнаю цыратаю канапкі, аблепленыя людзьмі.

Бачачы, што я інвалід, нехта пасунуўся, даючы месца. Я падзякаваў, аднак не сеў. Бо гэтыя канапкі былі разлічаны на здаровых людзей, а ў мяне, на жаль, яшчэ з вайны пакалечаны хрыбетнік. Стаў я каля сцяны, пры калоне, успёрся на кіёк, паслабіў хворую нагу.

Чарга паволі, як закіданы ламаччам ручай, але гэтак жа няўхільна і няспынна, пацякла ў кабінет. Людзі заходзілі, каб неўзабаве выйсці адтуль, саступіць месца наступнаму.

Дайшла пара і да мяне. Адчыніў жоўтыя дзверы, спытаў, ці можна, і, пачуўшы бадзёрае «Заходзьце!», пераступіў парог кабінета.

Чарнявы, гадоў за сорак мужчына ў белым халаце сядзеў за сталом і, схіліўшыся, пісаў нешта ў картачцы, відаць, папярэдняга хворага. За суседнім сталом даволі прасторнага кабінета сядзела медсястра — смуглатварая жанчына сярэдніх гадоў з уважлівым позіркам цёмных вачэй і моцна сцятымі вуснамі. Абаіх я ведаў, бо хоць не часта, але сяды-тады даводзілася наведваць паліклініку.

Прозвішча доктара было Збанкоў. Звалі яго Васіль Іванавіч.

— У мяне чапаеўскае імя! — любіў паўтараць ён хворым.— Таму я доўга не чыкаюся з пацыентамі. Раз, два і — гатовы. Па-чапаеўску!

Некалі гаварыў ён такое і мне. Цяпер жа ўспамінаць пра Чапаева чамусьці перастаў.

Я павітаўся.

— Што скажаце? — не ўздымаючы галавы, спытаў доктар Збанкоў.

— Нешта дрэнна сябе адчуваю. Мо б лекаў якіх выпісалі.

— Як ваша прозвішча?

— Пармон.

Доктар кінуў позірк на картачку, відаць, упэўніваўся, што перад ім сапраўды Пармон.

— Тожа мне прозвішча знайшлі! — зморшчыўся ён.

— Не я знайшоў. І бацька мой, і дзед, і прадзед — усе Пармоны былі, прозвішча такое насілі. Звычайнае, беларускае. Ніхто яшчэ мяне не папракаў за яго. І я стараўся прозвішча не ганьбіць, каб перад продкамі брыдка не было.

Доктар зноў зморшчыўся і ўзняў галаву ад чыейсьці гісторыі хваробы:

— Столькі гадоў перабудова ішла, а вы не змаглі на лепшае, на якое рускае змяніць!

— А навошта? Я ж кажу. Хоць не графы мы, не князі, але імем сваім даражым.

— Дык што там у вас? — доктар кінуў картку папярэдняга хворага ў стосік гэткіх жа мурзатых, абшарпаных і падклееных картак. Падсунуў да сябе маю гісторыю хваробы, разгарнуў.— На што скардзіцеся?

— Прастуда, мусіць. Цісне. Холадна. Галава. Каб лекаў якіх выпісалі, мо.

— Вас слухаць ці неабвязкова? Кашляеце?
— Крыху кашляю.
— Не буду слухаць. І так усё ясна. Рэсператарнае захворванне. А мо вы па бальнічны?
— Не. Пенсіянер я. Інвалід. Мне б лекаў якіх. Каб палягчэла.
— Кожны хоча, каб яму палягчэла. І ніхто не думае што-небудзь зрабіць, каб палягчэла доктару.
— І вы хварэеце? — паспагадаў я.
— Не хапала! — хмыкнуў доктар Збанкоў.— Досыць таго, што ўсе хварэюць, а нам лячыць. І плацяць — не грошы, а слёзы. Ведаеце, колькі мне за вас заплацяць?

Я насцярожыўся. Гэта вельмі нагадвала намёк на тое, каб я ўнёс нейкі чынш.
— Не ведаю. Прыйшоў да вас па дапамогу.
— Для вас гэта «па дапамогу», а для мяне праца, за якую я атрымліваю зарплату.
— Усім цяпер мала плацяць. Во, жонка мая, яшчэ працуе, то кажа...
— Што мне да вашай жонкі! Я ад сваёй уцячы гатовы. Толькі і чуеш: «Давай грошы!», «Давай грошы!». А то яшчэ і ў магазін пашле нешта купіць. А там няма. Бяжы ў другі, трэці... У чацвёртым ёсць, дык цана такая, што хоць стой, хоць падай.
— Гэта так. Цяпер цэны скачуць угару, як конікі ў спёку на лузе.
— Цэны скачуць... Я працую, а толку мала. А хвораму я ж не загадаю: расшпіляй кашалёк, калі лячыцца хочаш.
Я яго зразумеў. І намёк ягоны таксама. Але ж у мяне пры сабе не было кашалька. Ды і ў кішэнях «зайчыкі» не ляжалі, бо ішоў я ў паліклініку, а не ў магазін.

Напэўна, і доктар Збанкоў гэта сцяміў. Бо ўздыхнуў і пачаў выпісваць рэцэпты. Цэлых тры.
— Што вы мне выпісваеце? У жонкі ў шафцы нейкія лекі ёсць. Не ўсе папіла. Мо якраз гэтыя?
— Такіх няма. Тут слабіцельнае. Каб стул нармальны быў.
— Ма-ма! — вырвалася ў мяне.
— Што «ма-ма»? Не зразумела?
— Дык я ж на жывот не скарджуся! Навошта ж мне, за порткі трымаючыся, у туалет бегаць?
— Мне віднеј, чым і як вас лячыць і што ў аптэцы ёсць.
Я прамаўчаў. Сапраўды, доктару відней, чым маю хваробу выгнаць.

Доктар Збанкоў тым часам узяў бланк, каб выпісаць наступны рэцэпт. Аднак выпісваць не спяшаўся, думаў, кідаў позіркі на мяне, потым некуды ўдалячынь.
— А што гэта ў вас кішэнь адстыбурчвае? — спытаў ён і паказаў на ўнутраную кішэню майго пінжака.
— Нічога не адстыбурчвае. Пуста там.— Я адкінуў крысо, паказаў кішэню.— Во рэцэпты зараз пакладу.
— Ну, можна зрабіць, каб у наступны раз, як да мяне прыйдзеце, не пуставала.
— А хіба за адзін раз мы хваробу не выганім?
— Наўрад. Прыйдзецца яшчэ наведвацца.— Доктар выпісаў другі, а потым і трэці рэцэпт.
— Вось гэта,— доктар Збанкоў падаў мне рэцэпт,— мікстура. Каб адкашлівалася, каб дыхалася лягчэй. Піць тры разы. А паслязаўтра зноў да мяне. Чакаю!
— Цяжкавата хадзіць.
— Нічога. Залежвацца таксама не варта. А трэці рэцэпт — асноўнае ваша лякарства. Я вам выпісаў адну таблетку. Піць тры разы ў дзень.
— Адну? Мне яшчэ гэтак ніхто не выпісваў. Не лячылі мяне так дасюль!
— Раней не лячылі — цяпер лечым. На чатыры часткі таблетку раздзеліце — на ўвесь дзень хопіць. І на другі для апахмелу, так сказаць, застанецца. Цуд, а не лекі!
— Вы ўсё ж можа выпішце трошкі больш гэтага цуду, каб не ісці да вас праз дзень. Цяжка хадзіць...
— Яму не падабаецца хадзіць! — фыркнуў доктар Збанкоў і зірнуў на медсястру, але яна змоўчала, прытрымліваючыся нейтралітэту, хоць я разумеў, што сястра заўжды падтрымае доктара.
— Я ж інвалід, да таго ж хворы. Навошта ж мяне ганяць тудысюды? Ды яшчэ праз дзень. Выпісалі б лекаў на ўвесь курс лячэння — і скачы здаровы.
— Бач чаго захацеў! — засмяяўся доктар Збанкоў.— Перш, чым скакаць здаровым, вы да мяне на прыём наскачацеся.
— Не магу я.
— А вы напераменку з жонкай. Раз яна, другі вы. І наадварот.
— А чаму б не выпісаць зараз усё, што трэба для лячэння? На цэлы курс? — настойваў я.
— Разумнік вышукаўся! Яшчэ і вучыць мяне хоча!
— Не вучу, а толькі пытаю. Каб лепш.
— Каму лепш? — пацікавіўся доктар Збанкоў.— Калі вам стане лепш, то горш будзе мне. Рынак жа зараз! І адносіны рыначныя.
— Крый Божа! Я вам кепскага не жадаю. Ні тут, ні на рынку.
— Не жадаеце, а робіце. Вам я бясплатна лекі выпісваю. На спецыяльных бланках. А лекі дарагія. Вось я і атрымаў загад, якія спушчаны аж з самага верху: каб не перавыдаткоўваць залішне грошай на вас і на іншых гэткіх жа, эканоміць, дзе толькі можна. Пакуль сама хвароба не заные і не ўцячэ.
— А калі больш адмеранага напарстка выдаткуеце, хвароба даўжэй затрымаецца?
— Хваробу вашу хвароба не возьме. Толькі калі больш, тады я дулю, а не прэмію атрымаю. І мой загадчык таксама. І начмед. І галоўны ўрач паліклінікі. Словам, усе. Медсястра таксама,— доктар Збанкоў зноў кінуў позірк у бок медсястры, і зноў яна змоўчала. Грошы нашы вам на лекі пойдуць. Вось так, даражэнькі. Так што будзеце хадзіць да мяне! Вы надта дорага каштуеце для нашай невялікай рэспублікі, даводзіцца шукаць спосабы эканоміі. Лепшыя галовы шукаюць! Грошыкі ўсім патрэбны.
— Грошай не прыбавіцца, а сілы і чаравікі даб'ю, калі многа да вас хадзіцьму. Тлуму будзе шмат, спішаце кучу паперы. І я намучуся, а не палячуся.
— Э-э, тут другі тайм пачынаецца! Да вас мне справы няма. Пра мой тлум не хвалюйцеся, праца ў нас такая. Ды і начальству яна відна будзе, бо я не аднаго хворага прыму, а пятнаццаць — акурат гэтульки, колькі разоў вы да мяне прыкульгаеце. Гэта на адным чалавеку. А на ўсіх?.. Вось і выйдзе, што я рэгулярна перагружаны. А за перагрузку даплата мне паложана і прагрэсіўка таксама, кожны раз і пахваляць, і заплацяць.
— Паперы шмат разыдзецца,— толькі і знайшоўся я, што адказаць.— А ўнукам маім і іншым дзецям падручнікаў няма на чым друкаваць.
— Я за падручнікі не адказваю. Нават для вашых унукаў,— суха адрэзаў доктар Збанкоў і выгукнуў у бок дзвярэй.— Наступны!
Я зразумеў, што гаворка, а з ёю і маё лячэнне ў доктара Збанкова скончана, і выйшаў за дзверы.
У аптэцы атрымаў бясплатна таблетку слабіцельнага, дзве лыжкі мікстуры і адну таблетку. З імі і пашыбаваў дахаты.
— Ну што сказаў доктар? — пацікавілася жонка.
— Сказаў, каб ты лёгкай атлетыкай займалася: бегам на доўгія дыстанцыі.
— Навошта? — здзівілася жонка.— Ды і не я ж, а ты хворы.
— У паліклініку за мяне хадзіць загадаў: раз ты, раз я. А потым па лекі. У аптэку.
— Янечка,— збялела жонка,— то што ж у цябе за хвароба, што абаім да доктара хадзіць трэба?
— Не хвалюйся, звычайная паскуда — апчхі! Я хацеў сказаць — прастуда. А хадзіць доктар патрабуе, бо так яму выгадней: цяпер рынак усюды, нават да паліклінікі дабраўся.
— Я ўжо неведама што падумала...
Я не адказаў. Узяў свае лекі, высыпаў на адну паперку і выпіў. За адзін раз. І запіў дзвюма лыжкамі мікстуры.
— Памагай, Божа! — папрасіў я дапамогі ва Усявышняга.— Няхай хвароба ад разавай ударнай дозы ніцма ляжа.
— Я то ў паліклініку за цябе не пайду! — данеслася з кухні.— Мала што які перавучка выдумае! Хопіць мне пасля працы бегу па магазінах. І так кожан дзень набегаюся, настаюся ў чэргах — унукаў пераведаць ні сіл, ні часу не стае.
— І правільна зробіш, што не пойдзеш. Я, відаць, таксама больш не пайду,— адгукнуўся я.— Лепш, як палягчэе, пайду на базар і буду гандлем займацца.
— Што ж ты будзе прадаць? — пацікавілася жонка.— Свае хваробы?
— Напішу таблічку: «Парады, як трапіць на прыём да доктара Збанкова, які па новай методзе лечыць хворых пры рыначных адносінах». І на шматках паперы адрас паліклінікі. Разбагацеем, маці! Бізнес свой зробім!
— Ды ну цябе з тваім бізнесам! Выпіў лекі і кладзіся ў ложак, бізнесмен. Я зараз грэлку гарачую прынясу. Быць не можа, адляжа твая прастуда. Не першы раз...
Я паслухаўся, распрануўся і лёг у ложак. А неўзабаве палавіна мая прынесла цёплую грэлку. Ляжаў, саграваўся, а ў скроні пульсавала: «Пра бізнес усё-такі варта падумаць. Як паздаравею. Доктар Збанкоў супраць не будзе. Сам жа казаў: чым больш людзей ідзе да яго, тым яму большая выгада. А народ валам паваліць! Хто цяпер не хварэе? І прэміі з прагрэсіўкамі будуць — і доктару Збанкову, і яго загадчыку, і начмеду, і галоўнаму ўрачу паліклінікі. Можа, і медсястры што перападзе».
Мне стала добра, спакойна на душы, і я заснуў. Аж пакуль не пабудзіла выпітае слабіцельнае.
Дзякуй, доктар!

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

УРЭШЦЕ...

**Мікола ВЯРШЫНІН**

**ТВАР БАЯЗЛІЎЦА**

Калі сябры з ім побач — пры народзе
Шуміць, грыміць і грозна рвецца ў бой.
А толькі абаронцы адыходзяць —
Сціхае, робіцца ён зноў самім сабой.

**ЯГО ПАДЫХОД**

На рабоце сонны будзе,
Менш зрабіць — задума ўся.
А як соннага разбудзяць,
Кажа: — Я задумаўся.

**КЛЮЧ ДА СЭРЦА**

А жыццё ўсіх па-рознаму вучыць...
Калі стрэў ён па густу дзяўчыну,
Падабраў да душы яе ключык.
То быў ключ... ад уласнай машыны.

**СПАЖЫВЕЦКІ НАСТРОЙ**

Не мае вечна ён спакою,
Усё грабе, збірае, лепіць.
Калі ж не можа ўзяць рукою,
Дык хоць пазногцямі зачэпіць.

**РАБОТА ПАЙШЛА НА КАРЫСЦЬ**

Рэвізорам год ці два
У харчгандлі працаваў.
Для кашулі ўжо цяпер
Ні адзін не йдзе памер...
Бо не сходзіцца каўнер.

## ЯК ВЫВОДЗІЦЬ ПЛЯМЫ

**Ад іржы:** змешваюць роўныя часткі лімоннага соку і кухоннай солі. Наносяць раствор на некалькі гадзін на пляму, а потым змываюць, палошчуць у вадзе з дабаўленнем соды.

**Сальныя:** на каўнярах, унутры капелюшоў. Змачыць жорсткую шчотку ў нашатырным спірце, працерці сальныя месцы. Потым змыць цёплай вадой, працерці воцатам.

**Ад сокаў, віна:** запэцканыя месцы праціраюць фіялетавым растворам марганцоўкі, потым перакісам вадароду, пасля гэтага ўсё змываюць цёплай вадой.

**Ад крыві:** свежыя плямы адразу змочваюцца вялікай колькасцю халоднай вады. Праз некалькі гадзін плямы мыюць, выкарыстоўваючы гаспадарчае мыла, але толькі ў халоднай вадзе. Застарэлыя плямы выводзяць так: змешваюць тры чайныя лыжкі пітной соды і адну чайную лыжку нашатырнага спірту. Праціраюць пляму, потым змочваюць перакісам вадароду і змываюць цёплай вадой.

**Ад травы:** у паўшклянцы цёплай вады раствараюць сталовую лыжку солі. Праціраюць ваткай плямы да поўнага знікнення. Палошчуць рэч у цёплай вадзе.

**Тлушчавыя:** выводзяць бензінам альбо шкіпінарам. Пад забруджанае месца абавязкова кладуць ватку з крухмалам, які ўсмоктвае тлушч. Потым на анучку з бензінам ці шкіпінарам таксама насыпаюць крухмал і старанна праціраюць некалькі разоў.

## ЯК ВЫСПАЦЦА ЗА ПЯЦЬ ГАДЗІН?

Парушэнні сну звычайна ўзнікаюць у выніку стрэсу ці захворванняў сэрца, сістэмы кровазвароту альбо дыхальных шляхоў. У любым выпадку выкарыстоўвайце травы, напрыклад, хмель і валяр'ян у выглядзе чаю альбо таблетак. Паколькі яны зусім бясшкодныя, то дапамогуць заснуць, не парушаючы натуральнага рытму сну.

А цяпер — некалькі карысных парад.

Не ешце ўвечары многа, толькі лёгкія стравы, і, самае галоўнае, не вельмі позна.

Адмоўцеся ўвечары ад нікаціну, ад кавы і моцнага чаю. Алкаголь таксама каварны. Выпіце шклянку цёплага малака альбо травянога настою.

Шпацыр пасля вячэры здымае мускульнае напружанне, у вас з'явіцца прыемная стомленасць. Калі ўдзень прыходзіцца многа сядзець ці стаяць, не шкодзіць праехацца на веласіпедзе альбо паплаваць.

Адмоўцеся ад захапляючага дэтэктыва па тэлевізары, лепш паслухайце спакойную музыку, пачытайце кнігу лёгкага жанру.

Яркае святло і шум — ворагі добрага сну. Адзін вядомы ўрач яшчэ 100 гадоў назад сказаў: «Хай у спальні будзе цёмна і халаднавата, абы паветра было свежае...»

## НАШЫМ ПАРАДАМ БУДЗЕЦЕ РАДЫ

☐ **Каб сыр не высыхаў, загарніце яго ў вільготную анучку, пакладзіце ў поліэтыленавы мяшэчак альбо ў закрыты эмаліраваны посуд з кавалачкам цукру. Сыр зноў стане мяккім, калі на 24 гадзіны заліць яго кіслым малаком.**

☐ **Калі ў перасохлую гарчыцу наліць крыху воцату з цукрам, яна набудзе першапачатковую свежасць.**

☐ **Калі маянэз зацвярдзеў, яго паліваюць лімонным сокам альбо халоднай вадой.**

☐ **Каб у буфеце не было паху ад харчовых прадуктаў, пастаўце туды слоік са здробненым драўняным вугалем.**

Малюнкі
Леаніда РАЗЛАДАВА.





## АНЕКДОТЫ? АНЕКДОТЫ!

● Маці пытаецца ў сына: «Што табе спадабалася ў цырку?»

— Мне асабіста — тыгры, а татку — кошачка.

— А адкуль там кошачкі з'явіліся?

— Я іх не бачыў. Але ж татка казаў суседу: «Гэта ж трэба, якая кошачка прадае ў цырку білеты!..»

● Як цудоўна, як цудоўна, Настуся!

— Я ж не Настуся, я — Маруся!

— Усё роўна цудоўна!

● Дружа мой, а што з табой зрабіла Анюта, калі заступала з суседкай?

— Уявi сабе, амаль нічога! А вось гэтыя тры пярэднія зубы я і сам збіраўся вырваць...

● Пячнік робіць печ. Пакладзе цагліну, грукне па ёй кулаком, а затым гаворыць: «Нібы тут і была».

Пакладзе другую, стукне кулаком і кажа: «Нібы і была тут».

Прыйшоў прараб раніцай, а печ развалілася. Пячнік паскроб патыліцу і мармыча: «Нібы і не была тут».

● Селянін з жонкай прыехаў у горад. На прывакзальнай плошчы падышоў да таксіста, спытаў: «За колькі «зайцоў» падкінеш да Камароўкі?»

— За сорак тысяч,— кажа таксіст.

— Але нас двое — жонка таксама едзе.

— Усё роўна за сорак тысяч.

● Утаймуйце свайго сабаку! Учора ён так завываў пад вокнамі, што мая дачка ажно перапыніла ўрокі спеваў!

— Прабачце, але ваша дачка пачала першая...

● Адвакат раіць свайму кліенту:

— Самае лепшае, што вы можаце зрабіць у вашым становішчы, гэта вярнуцца да сваёй жонкі.

— Цікава, а што тады, на ваш погляд, самае горшае?

● Чалавек ідзе і бачыць: пастух гуляе з бараном у шахматы. Цікавіцца:

— Ну, і як гульня?

— Што ты пытаешся! Баран ёсць баран! — адказаў пастух.

— А лік які?

— Лік у нас — 3 : 3...

# КРЫЖАВАНКА



1. Даўні звычай моладзі збірацца на танцы і гульні. 2. Гарадскі пасёлак у Дзяржынскім раёне. 3. Сукупнасць п'ес, песень, якія выконваюцца на эстрадзе. 4. Навука, якая вывучае ўласцівасці высокіх слаёў атмасферы. 5. Тэлецэнтр у Маскве. 6. Калгас у Пінскім раёне. 7. Кніжка паэзіі Н. Тулупавай. 8. Зорная сістэма. 9. Радыётэхнічнае прыстасаванне для прыёму сігналаў адлюстравання і гукавога суправаджэння. 10. Тэлескоп з лінзавым аб'ектывам. 11. Вёска ў Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці і аднайменная — у кожнай вобласці Беларусі. 12. Вайсковы начальнік гарнізона. 13. Старая назва аднаго з раёнаў г. Мінска. 14. Жандар у Італіі. 15. Сельскагаспадарчая машына. 16. Беларускі вучоны ў галіне тэхналогіі машынабудавання. 17. Мужчына, які нядаўна пабраўся з жанчынаю. 18. Народны ансамбль песні і танца Віцебшчыны. 19. Сістэматызаваны збор картак з даведачнай ці ўліковай інфармацыяй. 20. Турбаза ў Мядзельскім раёне. 21. Твор палемічнай літаратуры, напісаны Хр. Філалетам у 1597 годзе. 22. Верш М. Танка. 23. Апрацоўка паверхні чаго-небудзь з мэтай надання ёй люстрана-гладкага выгляду. 24. Спартыўная гульня. 25. Раздзел педагогікі. 26. Зона адпачынку рэспубліканскага значэння на Магілёўшчыне. 27. Прыбор для вымярэння хуткасці ветру. 28. Зборнік выбраных мастацкіх твораў. 29. Упрыгожанне, якое носяць на руцэ. 30. Сукупнасць правіл пабудовы слова і сказа. 31. Участак воднай паверхні. 32. Сукупнасць вытворчых адносін на пэўным этапе развіцця грамадства. 33. Невялікая панская сядзіба, хутар. 34. Шырокія вадаспады з невялікай вышыні. 35. Кампазіцыя беларускага скульптара А. Заспіцкага. 36. Будаўнічая машына. 37. Персанаж драмы К. Крапівы «З народам». 38. Каштоўны камень. 39. Старажытны іспанскі танец. 40. Частка паляўнічага рыштунку. 41. Беларускі народны танец. 42. Вядомы эстрадны ансамбль Беларусі. 43. Карціна І. Крамскога. 44. Прадметы, прыгодныя толькі для перапрацоўкі. 45. Беларускі паэт, аўтар зборніка «Вогненная камета». 46. Штогодні зборнік твораў пісьменнікаў народаў былога СССР і замежных краін у перакладах на беларускую мову. 47. Спартыўнае спаборніцтва. 48. Рыба сямейства карпавых.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**




## НЕ ВЕРЦЕ ВАЧАМ СВАІМ

**Камбінацыя Івана Белавуса**
(в. Руднае Хойніцкага раёна)



**Выйгрыш.**

І сапраўды, у прыведзенай на дыяграме пазіцыі ў белых, як гаворадь у народзе, «песня спета». Ды зусім не. Яна, гэта «песня», толькі пачынаецца. Тут неабходна праявіць настойлівасць і кемлівасць. Вось тады можна не толькі выратавацца, а нават і атрымаць перамогу. І пачынаецца развязванне з незвычайнага ходу белых — «падштурхвання» чорнай шашкі b2 у дамкі. А далей, калі ўсё ж не ўдасца знайсці рашэнне, падказваем 1. d2—c3! b2—a1 2. e5—d6 3. c5—b6 4. e1—d2 5. d2:g3! 6. g1:c5 7. c1—d2 8. c5—b6 9. d2—e3 10. a3—b4! 11. b4—c5.

## ФРАЗЫ

● І з рычагоў улады трэба здымаць адбіткі пальцаў.

● Не глядзі на жыццё змрачней, чым яно на цябе.

● Яго жыццёвае крэда: пабудаваць дом, выгадаваць сына і... пасадзіць суседа.

● Бяда ў тым, што не кожны выбірае трыбуну па свайму росту.

● Бюракратыя, як і справа Ільіча, бессмяротная.

● Цяпер на грамадскіх пачатках толькі птушкі пяюць.

● Нашы справы настолькі смешныя, што хочацца плакаць.

**Рыгор РУМКО.**

## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

● Маці наказвае дачцэ-пяцікласніцы:

— Вернешся са школы, прыбяры ў кватэры, памый посуд, схадзі ў краму.

— Што ты, мамачка! Няхай Сымонка. Ты мне адпачываць давай, шкадуй мяне. Вырасту, стану сама маці — нараблюся яшчэ.

● — Мам, тат, у магазіне за маслам душацца.

— Ну і няхай, у нас грошай няма.

Светачка жахнулася:

— Як жа мы будзем піць чай?!

● Па тэлевізары перадача пра Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Дзесяцігадовы сын глядзіць неадрыўна і раптам крычыць:

— Глядзі, татачка, яны першымі ў камунізм увайшлі.

● На ўроку беларускай мовы ў першым класе вясковай школы настаўніца пытае:

— Дзеці, хто ведае, што такое лазня, як яна называецца парускі?

— Лазня — гэта дзірка ў плоце,— адказвае Сяргейка.

● — Ірынка, чаму ты так доўга глядзіш у меню, ты ж яшчэ чытаць не ўмееш? — дакарае маці дачку ў кафэ.

— А я шукаю знаёмыя літары,— адказвае дзяўчынка.

**Дзіцячыя размовы падслухаў Аляксей МІЛАШЭЎСКІ.**

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 4**



УРЭШЦЕ...

**Змітрок МАРОЗАЎ**

*У полі ранак*
*жнівеньскі вітаю,*
*Згінаюцца*
*ў паклоне каласы,*
*А памяць продкаў*
*зноў мяне вяртае*
*Туды, у даўно*
*забытыя часы.*

*І чую тупат*
*конніцы Мамая,*
*І паланянак*
*юных галасы,*
*І посвіст куль...*
*Дагэтуль кроў густая*
*Ўзыходзіць з долу*
*з кроплямі расы.*

*Але жаўрук*
*прасветлена смяецца*
*І сыпле ноткі*
*срэбраныя ў сэрца,*
*І падымае песню*
*на крыло,*

*Што нашаптала ціха*
*мне калоссе...*
*Мой жнійны будзень —*
*сталасць на парозе.*
*Гадоў насенне*
*жытам узрасло.*



# У полі ранак жнівеньскі вітае...





Фотанавела **Віктара ЖЫЛІНА**




# БЕЛАРУСЬ

**ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ШТОМЕСЯЧНІК**

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1930 ГОДА

**№ 6 (678)**
**ЧЭРВЕНЬ 1995**




НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: фота **Яўгена КОКТЫША.**


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
І ПРАЦОЎНЫ КАЛЕКТЫЎ РЭДАКЦЫІ.

Выдавецтва «Полымя» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Мінск.

Здадзена ў набор 13.04.95. Падпісана да друку 19.05.95. Фармат $70 \times 108^1/_8$. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11,1. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 5990 экз. Зак. 560.

Кошт у розніцу — 2000 рублёў.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны для даведак: 33-02-29; 33-20-54. 220013, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».

